# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1(84) Студзень 2001 January Год. выд. 9.


## Народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў віншуе беларусаў з новым годам, новым стагодзьдзем і новым тысячагодзьдзем...

“Так, час бяжыць – новы год, новае стагодзьдзе, новае тысячагодзьдзе. Ня часта ў гісторыі так выпадае – такі зьбег часавай трыяды. Сумна, аднак, тое, што час новы, а нашыя клопаты ўсе старыя; усё тыя ж, што і сто, і дзьвесьце гадоў таму. Гэтыя клопаты для нацыі, мусіць, найпершыя, першачарговыя, таму яны і ўвасобіліся ў плён для ўсіх без выключэньня эўрапейскіх нацыяў, апроч беларусаў. Я маю на ўвазе, вядома ж, нашую свабоду і незалежнасьць. Зрэшты, калі б было штосьці адно – свабода без незалежнасьці альбо незалежнасьць без свабоды, але так не бывае. Сумна ўсё гэта, балюча і турботна. Але без таго не абыйсьціся, калі хочаш жыць, а не добраахвотна класьціся ў дамавіну. Дык вось найпершае маё пытаньне: чаго нашая нацыя хоча? Вельмі пажадана мець на яго пэўны адказ. На жаль, такога адказу няма. Менавіта з гэтым зьвязаны ўсе мае сумненьні, спадзяванкі і пажаданкі на новы год, новае стагодзьдзе і новае тысячагодзьдзе.

А што тычыцца асабістага... Пішу, бо што ж яшчэ мусіць рабіць пісьменьнік? Тым болей, у маім напаўэкзыльным становішчы. Пішу з надзеяй, што гэта каму-небудзь і калі-небудзь можа спатрэбіцца, ці, хаця б, станецца цікавым.

**З Новым годам Вас, мае дарагія землякі!”**

## 2001-ы год можа стаць годам Вялікага пералому

Пры ўсёй цяжкасці цяперашняга жыцця, пры ўсёй трагічнасці прымітыўнай барацьбы за выжыванне ў цэнтры Еўропы на пачатку новага тысячагоддзя, пры ўсім убостве маральнага асяроддзя, культывуемага ўладаю, у нас ёсць спадзяванні на тое, што Новы 2001-ы год можа стацца годам Вялікага Пералому. Веру, што беларусы нарэшце скарыстаюць свой гістарычны шанец, які лёс сімвалічна звязаў з першым годам новага тысячагоддзя.

Як павінен выглядаць гэты будучы Вялікі перелом, што ён павінен зламаць, а што пакінуць? Думаецца, што ў наступным годзе будзе зламаная, найперш, наша агрэсія, скіраваная супраць саміх сябе.

Доўгі час нас прывучалі да непавагі да саміх сябе. З маленства нам імкнуліся давесці, што мы нічога не вартыя. Без партыі, без місіянскай мэты, без “старэйшага брата”. Без нафты, без ядзернай бомбы, без правадыроў, якія вядуць нас на бітву за чарговы “-ізм”.

Мы перасталі паважаць сябе. Мы шчыра пераканаліся ў тым, што ўсё наша - другаякаснае ці нават шкоднае. Што сапраўдныя, шляхетныя каштоўнасці супярэчаць нашай аўтэнтычнасці. Мы сталі з імпэтам вынішчаць закладзены ў нас гісторыяй і прыродай нацыянальны светапогляд. Сталі ненавідзець сябе за тое, што ўсё яшчэ з'яўляемся носьбітамі этнічнай самабытнасці, якую атаясамлялі з непаўнавартасцю...

Ад дня абвяшчэння незалежнасці мінула амаль дзесяць гадоў. Мы не выкарысталі распаду камуністычнай імперыі, каб аб'яднацца ў адзіны народ. Нашу агрэсію супраць саміх сябе скарыстала новае пакаленне савецкай наменклатуры. Яно распальвае самаразбуральную агрэсію беларусаў дзеля ўтрымання сваёй хцівай улады.

Да гэтай пары ўлада паспяхова нацкоўвала адну частку народа на другую. Рабочых - на сваіх дырэктараў. Чыноўнікаў - на прафсаюзы. Старых - на маладых. Рускамоўных - на “нацыяналаў”. Канфесійных “грэкаў” - на “рымлянаў”. Пакупнікоў - на гандляроў. Міліцыянтаў - на цывільных. Але ўсяму прыходзіць канец.

Нам абрыдла ваяваць супраць саміх сябе. Мы хочам міру, хочам працаваць, а не “біцца за высокія паказчыкі”. Хочам гадаваць дзяцей і ўнукаў, а не “выхоўваць маладое пакаленне змагароў супраць”. Мы хочам адчуваць грамадзянскую еднасць, а не вынішчаць сваю самасць. Ганарыцца сваёй непаўторнасцю. Проста жыць у згодзе з сабою і светам.

Наступны год дае нам магчымасць змяніць неспрыяльны рух гісторыі. Аб'яднацца. Скіраваць сваю агрэсію на тых, хто паставіў нас на мяжу выжывання. Усяго і трэба, што пайсці і прагаласаваць. За сябе. Гэта не будзе проста, але будзе. Бо павінна быць.

Сяргей Самасей, “Пагоня”



## НОВЫ ПРЭЗЫДЭНТ ЗША

Выбарчы марафон у Амэрыцы завершаны. На фінальным ягоным этапе ўзьніклі складанасьці з падлікам галасоў. Агромністая краіна замерла ў чаканьні — хто-ж стане новым прэзыдэнтам ЗША — прадстаўнік дэмакратычнае партыі Альбэрт Гор ці рэспубліканец Джордж Буш-малодшы.

І стаў прэзыдэнтам ЗША — самай дэмакратычнай і самай магутнай дзяржавы ў сьвеце **Джордж Буш**-малодшы.

Што значаць выбары новага прэзыдэнта Амэрыкі для Беларусі? Выглядае, што ўсё застанецца бяз зьменаў...



**Спадар Арсень МОНІД —** заслужаны беларускі грамадзка-палітычны дзеяч у Канадзе, адданы працаўнік на ніве беларускага адраджэньня, палымяны патрыёт свайго народу.

Дарагі Арсень! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пpycкі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# "Разам лягчэй і бацьку біць"

**Аляксандар Дашчынскі**

Надышоў новы год, які напэўна прынясе новыя падзеі. Але што было адметнага ў старым, мінулым годзе? З гэткім пытаньнем я зьвярнуўся да вядомых на Беларусі палітыкаў.

Мае суразмоўцы - вядомыя й паважаныя асобы, прафэсары й апазыцыянэры – старшыня Беларускае Сацыяль-Дэмакратычнае Грамады Станіслаў Шушкевіч і намесьнік старшыні Партыі БНФ Юры Хадыка. На чым яны засяродзілі ўвагу, якая падзея ім падалася на Беларусі найбольш значнаю? Станіслаў Шушкевіч лічыць, што цягам гэтага году беларуская апазыцыя лепш пачала разумець тое, што адбываецца, і тое, што трэба рабіць.

**С.Ш.:** - Мы сталі на шлях такога аналітычнага мысьленьня, мы не дасягнулі яшчэ згоды па шэрагу пытаньняў, але сталі на гэты шлях, і мне здаецца, што у пачатку гэтага новага тыдня, новага стагодзьдзя, тысячагодзьдзя мы да гэтага размуеньня прыйдзем, таму што фактычна мы да яго ў многіх адносінах падышлі. Таму я спадзяюся, што ў Беларусі будзе нармальная палітычная эліта, якая здольная будзе працаваць так, як працуюць палітычныя эліты ў суседніх краінах, у Літве, у Польшчы. Кваліфікацыя нашай палітычнай эліты значна павялічылася ў гэтым годзе.

**А.Д.:** - Якую канкрэтную падзею, што, на Ваш погляд, паўплывала на разьвіцьцё сытуацыі ў Беларусі, Вы маглі б згадаць?

**С.Ш.:** - Я ня бачу такой падзеі, на якой можна было б акцэнтаваць увагу. Мне здаецца, мы ўсьведамілі, што ня толькі апазыцыя, але й рэжым - там многа зусім недурных людзей - усьведамілі, што той шлях, на які штурхае Беларусь гэты недасьведчаны чалавек, які захапіў уладу, - гэта шлях тупіковы й што рэвалюцыйным шляхам тут ня выйсьці з гэтага становішча. А вось пераканананасьць у тым, што Беларусь можа быць нармальнай дзяржавай, пашыраецца, і што яна можа быць самастойнай дзяржавай і не шукаць рашэньня ў суседняй краіне, калі сам слабы розумам, як наш так званы кіраўнік, а прапаноўваць свае рашэньні... Мне здаецца, што ўсьведамленьне гэтага зьявілася.

**А.Д.:** - Чаго, на Ваш погляд, не ўдалося дасягнуць апазыцыі ў гэтым годзе?

**С.Ш.:** - Я хацеў бы сказаць, чаго ўдалося дасягнуць. Дасягнуць удалося таго, што многія людзі пазбавіліся асабістых амбіцый, але разам з тым, на жаль, зьявіліся новыя яшчэ менш дасьведчаныя людзі, якія з гэтымі амбіцыямі прыйшлі. Але ўжо асяродзьдзе такое, што акцэнт на іх зрабіць ня прыйдзецца, і таму я яшчэ раз падкрэсьліваю, апазыцыя стала больш дасьведчанай больш адукаванай і зможа супрацьстаяць у наступным годзе таму ідыятызму, які цяпер у нашай дзяржаве.

Наступны ўдзельнік нашага апытаньня -- прафэсар Юры Хадыка.

**А.Д.:** - Якая падзея мінулага году зрабіла найбольшы ўплыў на палітычнае жыцьцё ў нашай краіне?

**Ю.Х.:** - Я чалавек радыкальны, партызаваны, таму я лічу, што самая важная падзея, якая адбылася ў мінулым годзе, якая скажацца яшчэ на лёсе Беларусі, гэта тое, што разнастайныя дэмакратычныя арганізацыі здолелі дамагчыся высокай ступені адзінства напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, якія й вырашаць, па вялікім рахунку, лёс Беларусі.

**А.Д.:** - А вось канкрэтная падзея, на якой бы Вы маглі засяродзіць увагу, ці была яна?

**Ю.Х.:** - Думаю, што посьпех байкоту.

**А.Д.:** - Вы лічыце, што апазыцыя ў гэтым годзе, прайшоўшы праз выпрабаваньні, умацавалася?

**Ю.Х.:** - Безумоўна, апазыцыя ўмацавалася ў тым, што яна выйшла на шлях аб'яднаньня намаганьняў у змаганьні з рэжым Лукашэнкі. Гэты працэс атрымаў выразнае сваё пацьверджаньне ў посьпеху байкоту. На жаль, сродкі масавай інфармацыі гэтаму не надалі належнай увагі, таму што Лукашэнка згубіў каля 20 працэнтаў свайго электарату , які заўсёды так ці інакш падтрымліваў яго пачынаньні. Тое, што выбары не адбыліся ў падаўляючай большасьці акруг, фактычна ва ўсіх гарадзкіх акругах - гэта агромны посьпех апазыцыі й гэта ёсьць знак на тое, што ў нас ёсьць шанцы перамагчы гэты антычалавечы, антыбеларускі рэжым у наступным годзе.

**А.Д.:** - Ці ёсьць у Вас нейкія пажаданьні апазыцыі?

**Ю.Х.:** - Адное толькі пажаданьне - быць як мага больш сьціплымі, як мага больш калектывісцкімі, таму што разам, як вядома, і бацьку лягчэй біць.

**********************

# Сямён Домаш: «Разважлівасці ворагам маім»

**Сямён Домаш – фігура знакавая ў беларускай палітыцы. Дэпутат Вярхоўнага Савета 13 склікання, былы губернатар Гродзенскай вобласці, ён не падтрымаў лукашэнкавага рэферэндуму 96-га года і сышоў у апазіцыю. З тых пор С.Домаш рэзка крытыкуе палітыку А.Лукашэнкі, балазе, падставаў для крытыкі хапае. У лістападзе-снежні шматлікія дэмакратычныя арганізацыі зрабілі стаўку на Сямёна Домаша як на адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Цяпер ідуць перамовы з усімі трыма прэтэндэнтамі на адзінага кандыдата; невядома, чым яны завершацца, але ў любым выпадку прынцыповасць і цвёрдасць палітыка выклікаюць толькі павагу да яго. Незалежна ад таго, стане ці не Сямён Домаш адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад аб'яднанай апазіцыі.**

Напярэдадні Новага года і 51-га дня нараджэння, які палітык адзначыць 2 студзеня, прапануем вам інтэрв'ю з Сямёнам Домашам.

***— Сямён Мікалаевіч, калі разглядалі фігуру адзінага кандыдата ў прэзідэнты, большасцю галасоў Каардынацыйная Рада Дэмакратычных Сілаў падтрымала менавіта Вас. Чаму?***

— За мяне выказаліся людзі ўсіх рэгіянальных аб'яднанняў, грамадскіх, палітычных і прафсаюзных арганізацыяў, абласцей і буйных гарадоў Беларусі, якія добра ведаюць мяне. Я заўсёды імкнуўся і адстойваю палітыку аб'яднання дэмакратычных сілаў. Мой вопыт працы і ранейшая дзейнасць у народнай гаспадарцы і ўладных структурах, магчыма, таксама паўплывала на такое рашэнне.

***— Прымаючы Вас як адзінага кандыдата, не ў апошнюю чаргу КРДС зважала на адсутнасць кампрамату, за выключэннем хіба што вашага дома ... Як рэагуе ўлада на Вашыя прэтэнзіі памагацца за прэзідэнцтва?***

— Лукашэнка і яго памагатыя адным са сваіх галоўных накірункаў змагання за ўладу выкарыстоўвалі і выкарыстоўваюць хлусню. У Беларусі практычна няма ні воднага апазіцыйнага палітыка, якога б у чым-небудзь не абвінавачвалі. Што датычыць гісторыі з маім домам, дык пасля абрання старшынём аблвыканкама ў 1993 годзе я з сям'ёй пераехаў у асобнае жыллё для арганізацыі аховы, якая была ўведзеная Саўмінам Рэспублікі пасля забойства майго папярэдніка.

Пры разглядзе справы, якую вы ўзгадалі і якая была ўзбуджаная па патрабаванні Лукашэнкі, суд не знайшоў ніякага парушэння закона з майго боку.

Як рэагуе ўлада ў цэлым на вылучэнне маёй кандыдатуры – не ведаю. Але па звестках, якія даходзяць да мяне, шмат яе прадстаўнікоў прымаюць гэта станоўча – улада гэта не толькі Лукашэнка.

***— Сямён Мікалаевіч, яшчэ 23 снежня Рада збіралася зацвердзіць механізм вылучэння адзінага кандыдата – да гэтага часу мусілі завяршыцца кансультацыі паміж патэнцыйнымі прэтэндэнтамі. Аднак паседжанне КРДС перанесенае на 5 студзеня. Ці азначае гэта, што кансультацыі не далі плёну?***

— Наадварот, кансультацыі, якія вырашана прадоўжыць, на мой погляд, толькі палепшаць сітуацыю з вылучэннем адзінага кандыдата.

***— Ці гатовыя Вы, Сямён Мікалаевіч, маральна і фізічна да апошняга змагацца за прэзідэнцкае крэсла? І як Вы расцэньваеце свае шансы на перамогу, калі станеце кандыдатам ад аб'яднанае апазіцыі?***



— Калі мяне падтрымаюць, — у мяне хопіць вопыту і загартоўкі, маральных і фізічных сілаў, каб не толькі змагацца да апошняга, але і перамагчы. Лічу, што гэта поўнасцю магчыма, калі будзе створана моцная кааліцыя, у першую чаргу, дэмакратычных сілаў.

***— Ці правільна гэта, Сямён Мікалаевіч, вылучаць адзінага кандыдата? Многія, да прыкладу Уладзімір Ганчарык, лічаць, што найперш трэба не шукаць канкрэтную асобу, а сфарміраваць каманду, з якой апазіцыя пойдзе на выбары, размеркаваўшы ўсе ключавыя пасады будучага ўрада? Вашая думка.***

— Згодзен з тым, што на выбары трэба ісці з камандай, у якой будуць вызначаны нават асобы, якія будуць займаць пэўныя пасады. Але камандзе патрэбен лідэр, ці ў нашым выпадку кандыдат.

***— Ці мае аб'яднаная апазіцыя рэсурсы – людскія, матэрыяльныя, — каб забяспечыць перамогу свайму кандыдату на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года? Ці ёсць увогуле шанс перамагчы?***

— У шырокай кааліцыі знойдуцца ўсе патрэбныя для перамогі рэсурсы. Што датычыць захадаў цяперашняй улады ачарніць у вачах выбаршчыка апазіцыю, то што можна чакаць ад людзей, якія не кіруюцца ў сваім жыцці ніякімі маральнымі прынцыпамі. Мы павінны быць гатовымі да самых брудных, непрыстойных выпадаў на наш адрас. Але мы здолеем супрацьстаяць гэтаму і прыцягнуць у наш бок сімпатыі выбаршчыкаў.

***— Як будзе, на Ваш погляд, развівацца ўнутрыпалітычная сітуацыя на Беларусі напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі? Улады ціснуць замежны дыпламатычны корпус, акрэдытаваны ў Мінску; апазіцыя абвінавачваецца ва ўсіх смяротных грахах, аж да спробаў гвалтоўнай змены ўлады, дзеля чаго, нібыта, апазіцыя завозіць у краіну зброю?***

— Часткова я ўжо адказаў на гэтае пытанне. Што тычыцца адносінаў да замежнага дыпламатычнага корпуса, то калі Лукашэнка адчуе (а ён ужо зараз пачынае адчуваць), што сітуацыя будзе пераважваць не на яго карысць, першае, што ён паспрабуе зрабіць – гэта абмежаваць кантроль за становішчам у Беларусі з боку міжнароднай супольнасці. Не выключана, што будзе актывізаваны пошук ворагаў як сярод дыпламатаў, так і ўнутры краіны, абвінавачванні дзеячаў апазіцыі

ва ўсіх грахах.
Доказ гэтаму – бязглуздыя сцвярджэнні Беларускага тэлебачання. Яшчэ раз паўтару — мы павінны быць гатовы да ўсяго і, у першую чаргу, да таго, што ўладу Лукашэнка проста так не аддасць.

***— І некалькі навагодніх пытанняў, Сямён Мікалаевіч. З якімі пачуццямі і думкамі Вы сустракаеце новы 2001 год, прыход новага стагоддзя і новага тысячагоддзя?***

— Будучы год для мяне знамянальны тым, што ў нас з'яўляецца магчымасць выправіць памылку, якую мы зрабілі ў 1994 годзе. І я вельмі спадзяюся, што нашыя людзі зразумеюць гэта, у рэшце рэшт, адкінуць абыякавасць і ў іх прачнецца адчуванне адказнасці за свой лёс, лёс сваіх дзяцей, сваёй краіны і жаданне стварыць яго самім. У новым стагоддзі не можа быць месца той гнюсі, якую мы маем зараз.

***— На 2001 год, на прэзідэнцкія выбары беларусы ўскладаюць велізарныя надзеі. Ці апраўдаюцца яны, гэтыя надзеі на лепшае, ці гэтай краіне прыйдзецца і далей гібець з цяперашняй уладай?***

— Лічу, што калі беларускі народ за мэту на будучы год возьме лозунг «Наша жыццё — у нашых руках» — і рэалізуе яго, тады мы зможам змяніць сітуацыю.

***— Што Вы пажадаеце сваім сябрам, прыяцелям?***

— Шчасця, дабрабыту, моцнага здароўя, невычарпальнай энергіі і аптымізму.

***— Што пажадаеце ворагам, калі яны ёсць у Вас?***

— Разважлівасці. Каб яны зразумелі, што я ім не вораг.

***— І што, нарэшце, Вы пажадалі б сабе на парозе трэцяга тысячагоддзя?***

— Каб мне Бог даў мудрасці і шмат верных сяброў.

***— Вялікі дзякуй! Віншуем таксама Вас з Новым годам і днём нараджэння.***

Інтэрв'ю ўзяў Рыгор БУЯН



# ЗМАГАЙМАСЯ!

Прысьпешваецца кадравае афармленьне расейскай акупацыі Беларусі і ствараюцца палітычныя ўмовы для здачы беларускай дзяржавы пад Расею. Пра гэта сьведчаць чарговыя чысткі ва ўладзе ў Менску, якія адбыліся 27-га лістапада гэтага году. Цяпер ва ўрадзе Лукашэнкі не засталося ніводнага беларуса. (Звольнены нават услужлівы міністар культуры Сасноўскі.) На месцы беларусаў пастаўленыя рускія функцыянэры расейскага ФСБ. Мне прыходзілася і раней папярэджваць, што пасьля захопу ўлады ў Беларусі рускімі спэцслужбамі зь беларускіх органаў кіраваньня паступова будуць выдаленыя (а пазьней -- зьнішчаныя) усе беларусы, у тым ліку і Шэйман, і Мацкевіч, і Антановіч, і Пашкевіч, і Мясьніковіч і інш. Апошнім (пасьля чыстак і зрабленьня "справы") Масква ліквідуе Лукашэнку. Дзеля гэтага сярод выдаленых (каб выглядаў пацярпелым) будуць рыхтаваць свайго Каштуніцу. Беларусы павінны зразумець, што з 27-га лістапада на Беларусі кіруе поўнасьцю расейскі акупацыйны ўрад, які складаецца цалкам з расейцаў, расейскіх генэралаў і функцыянэраў ФСБ. Заканчваецца поўны захоп расейцамі беларускага войска, міліцыі і КГБ, даваршаецца разгром беларускага нацыянальнага школьніцтва, асьветы і адукацыі.

Кадравая чыстка, якую праводзяць рускія акупанты, выкарыстоўваючы Лукашэнку і выганяючы з кіраваньня беларусаў, мае адкрыты этнічны характар і стала магчымай у выніку нацыянальнай неразьвітасьці беларускіх кіруючых элітаў. Менавіта дзякуючы нацыянальнай адсталасьці і прадажнасьці беларускіх кіраўнікоў і савецкай каляніяльнай адміністрацыі, якая захавалася тут у нязьменным выглядзе, Масква праводзіць унікальную і пасьпяховую вайну супраць Беларусі, акупуючы краіну знутры без адзінага стрэлу.

Трэба ўлічыць, што афіцыйныя ды "незалежныя" СМІ...ды розныя нанятыя "экспэрты" спэцыяльна пішуць і гавораць рознае глупства пра кадравыя зьмены ва ўладзе, каб заблытаць, засаніць беларусаў, схаваць сутнасьць акупацыйнай антыбеларускай палітыкі. Не забывайма, што супраць беларусаў расейцамі вядзецца татальная інфармацыйная вайна, вынікі якой надзвычай разбуральныя.

На сёньняшні дзень Беларусь ужо ў мяшку. Засталося толькі завязаць. Тое, што беларусы ў гэтым мяшку спакойна сядзяць, тлумачыцца тым, што яны ня ведаюць, што іх чакае. Але калі мяшок завяжуць, то разумець будзе ўжо позна. Ніякіх рэальных прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі ў такіх умовах ня будзе. Можа адбыцца толькі фальшывая выбарчая прафанацыя дзеля абгрунтаваньня і замацаваньня акупацыйнай палітыкі рукамі і нагамі беларусаў. Улада ў Беларусі Масквой ужо захоплена. Засталося яе толькі легітымізаваць. Калі ж гэта не атрымаецца, то Расея паспрабуе арганізаваць пераварот і потым -- хуткі захоп нацыянальнай маёмасьці і ліквідацыю Беларускай дзяржавы.

Што цяпер рабіць?
Першае, што неабходна зразумець беларусам, гэта тое, што за свабоду трэба змагацца. Змагацца ўсімі сродкамі. Неабходна насупраць акупацыйнай улады стварыць законны беларускі Ўрад Нацыянальнага Даверу. Яшчэ ёсьць рэальная магчымасьць.

З ініцыятывай стварэньня законнага Беларускага Ўраду выступіў законны старшыня Вярхоўнага Савету і Выканаўца функцыяў Прэзыдэнта Беларусі Сымон Шарэцкі. Беларускі Вызвольны Рух даўно засьведчыў падтрымку гэтай задачы. Грамадзтва павінна прымусіць дэпутатаў Вярхоўнага Савету выканаць свае абавязкі па зацьвярджэньні законнага Ўраду.

Беларускія эліты мусяць зразумець, што не прэзыдэнцкія выбары (па правілах акупацыйнага рэжыму), а стварэньне законнага Беларускага Ўраду ёсьць першым крокам, каб запабегчы зьнішчэньню дзяржавы і незалежнасьці. Трэба збавіцца ад разбуральнага ўплыву расейсканямецкай дыпляматыі і глядзець у будучыню Беларускай нацыі.

Зянон ПАЗЬНЯК

# ЗЬВЕНЬНІ ЛАНЦУГА

Успомнім, напрыклад, што вясной-летам гэтага года Еўропа праз КНГ АБСЕ вяла з адміністрацыяй Лукашэнкі перамовы аб правядзенні ў Беларусі дэмакратычных выбараў. Прасілі няшмат: крыху дапусціць праціўнікаў рэжыму да эфіру, не біць дубінкамі маніфестантаў, уключыць прадстаўнікоў апазіцыі ў выбарчыя камісіі — і ўсё дзеля таго, каб нешматлікая колькасць апазіцыянераў (усіх разам, розных напрамкаў і кшталтаў) увайшла ў парламент. Няхай іх будзе няшмат, прасіў Захад, максімум працэнтаў трыццаць — але каб былі! Тады мы прызнаем вашу Палату прадстаўнікоў, знімем усе эканамічныя абмежаванні і будзем нават не супраць, каб прэзідэнт Лукашэнка прайшоў на другі тэрмін. Толькі б было бачна: на Беларусі нешта скалыхнулася.

І былі тады дзьве групы ў атачэньні Лукашэнка, якія адносна гэтых просьбаў займалі супрацьлеглыя пазіцыі. Спадар Латыпаў выступаў за пагадненне з еўрапейцамі на гэтых аб'ектыўна вельмі мяккіх умовах. Ён пераконваў свайго шэфа: нічога страшнага! Ну, крыху саступім — але ж выйграем больш! Спадар Шэйман, у сваю чаргу, трымаўся жорстка: апазіцыі толькі палец дай — усю руку адцяпаюць!

Менавіта з гэтым гандлем былі звязаны ўсе палітычныя перапады таго часу. То ўлада гучна аб'яўляе дыялог з няўрадавымі арганізацыямі і палітычнымі партыямі, абяцае дэмакратызаваць выбарчы закон — то падчас чарговай масавай акцыі пачынае масавы "хапун", ганяе журналістаў, дэманстратыўна нарываецца на скандал...

Такое "ваганне маятніку" цягнулася вясну-лета, пакуль, у рэшце рэшт, не перамагла пазіцыя "ультра" (умоўна кажучы — Шэймана). Перамагла, нягледзячы нават на папярэднія неафіцыйныя дамоўленасці паміж адміністрацыяй Лукашэнкі і кіраўніком КНГ АБСЕ паслом Вікам — няхай сабе кепская "радыкальная" апазіцыя байкатуе, але разумных і пакладзістых дэмакратаў (накшталт Статкевіча) мы ў дэпутаты пусьцім. Падманулі. Не пусцілі. Пачалі жорсткія рэпрэсіі супраць агітуючых за байкот (мы пра гэта шмат пісалі), хлусілі, разводзілі дэмагогію. І ў выніку — фактычна *нашы ўлады самі прымусілі еўрапейцаў не прызнаваць беларускія выбары.* Прадстаўнікі Захаду да апошняга выказваліся, наконт таго, што яшчэ ёсць шанц, што мы чакаем кроку насустрач — але ў выніку вельмі рэзка асудзілі беларускі рэжым. Бо даравацъ парушэньне пагадненьня не маглі.

Тады ліберальныя намаганні Латыпава, накіраваныя на прыданьне рэжыму больш-менш цывілізаванага аблічча, пацярпелі крах.

Але... Праходзіць час, і "Газпрам" разам з заходнімі партнёрамі ствараюць гала-кансорцыум па пракладцы новага газапровада "Нясвіж — Велке-Капушаны". Цікава удакладніць, калі канкрэтна гэта адбылося — 18-га кастрычніка. 27 кастрычніка заключаецца дагавор Ярмошына-Вяхірава. Гутарка ідзе пра дзесяткі мільярдаў долараў. Беларусь у даным выпадку выступае, скажам так, як ахоўнік пры "трубе". Ахоўнік, якому згодныя добра плаціць, але ад якога гаспадары (вельмі сур'ёзныя людзі з Масквы і Еўропы!) патрабуюць аднаго — быць у здаровым розуме, заўжды цвярозым, сумленным, увогуле чалавекам, здольным выконваць пагадненьні. Але Лукашэнка пагадненьні выконваць ня можа! У сітуацыі з выбарамі ён гэта даказаў канчаткова. Значыць — павінен быць прыбраны.

І вось — новыя факты. У канцы кастрычніка праходзяць перамовы наконт "трубы" — а ўжо на пачатку лістапада па Цэнтральным расійскім тэлебачаньні трансліруецца фільм Паула Шарамета "Дзікае паляваньне", у якім Лукашэнку прама абвінавачваюць у выкраданні і вынішчэньні апазіцыйных палітыкаў і журналістаў. Цяжка уявіць, што за Шараметам не стаяў нехта вельмі ўплывовы.

Яшчэ праз тыдзень на ўсе электронныя адрасы беларускай апазіцыйнай прэсы прыходзіць загадкавы адкрыты ліст нейкага ананімнага афіцэра КДБ. Зьмест — той жа: беларускі рэжым вінаваты ў забойстве людзей, у прыватнасці Завадскага і Ганчара. Што стаіць за гэтым лістом — незразумела. Аднак не выключаны і "маскоўскі" след.

Далей — быццам рэакцыя — раптоўная "зачыстка сілавікоў". На месца Шэймана трапляе Латыпаў. А разам з ім — на што звяртаюць увагу абсалютна ўсе — кіруючыя пасады ў сілавых структурах амаль цалкам займаюць выхадцы з Расіі.

Пакінем па-за межамі размовы ацэнку асобы спадара Латыпава. Не ў тым справа — сапраўды ён такі ліберал ці не, сапраўды схільны да кампрамісу ці не... У нашым выпадку важна, што гэты чалавек адкрыта і яўна прарасійскі. Прычым — з шматгадовай вывучкай савецкага КДБ за плячыма і з моцнымі старымі сувязямі ў сённяшнім расійскім ФСБ. Калі не адкрыты стаўленнік Расіі, дык нешта накшталт таго. Тое ж можна сказаць пра астатніх...

І здаецца мне вось што: гэтыя людзі прыйшлі наверх не для таго, каб ратаваць Лукашэнку. Іх мэта іншая — ціха-паціху падшукаць на месца беларускага лідэра новага чалавека. Больш прадказальнага. Больш цывілізаванага. Такога, за каго Масква не чырванела б пры перамовах з Захадам.

Калі я правы — ахарактарызаваць тое, што адбылося, можна адназначна: паўзучы пераварот. Што вынікае? Па-першае, мы маем сьведчаньне таго, што Лукашэнка больш несамастойны палітык: Расія, ахоўваючы свае інтарэсы на Беларусі, націснула — і ён выканаў загад, нават вось такі (а што рабіць, калі сам загнаў сябе ў пастку?). Падругое, Расія, відаць, больш не намерана трымаць нейтралітэт у час нашых прэзідэнцкіх выбараў і будзе актыўна падтрымліваць "свайго" кандыдата. І па-трэцце — што галоўнае! — гэтую сваю пазіцыю Масква зараз узгадняе з Еўропай. Таму новы беларускі прэзідэнт будзе шукацца ў тым ліку і сярод людзей з сучаснымі эканамічнымі поглядамі.

Кажуць, што дыктатары ўлады не аддаюць. Але... Нездарма, відаць, выходзяць на першыя ролі інтэлігентныя чэкісты з жалезнай хваткай.

**Віктар ІВАШКЕВІЧ.** ("Рабочы")

**Ванкарэм Нікіфаровіч**, Чыкага, ЗША.

# Станцыя спынена. Праблемы засталіся...

15 снежня 2000 года адбылося афіцыйнае закрыццё Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Менавіта там 26 красавіка 1986 года адбылася страшэнная катастрофа глабальнага сусьветнага значэньня. Пасьля моцнага выбуху на 4-м блёку станцыі многія раёны Украіны, Беларусі і Расіі былі засыпаныя радыёактыўным попелам; узьнікла сур'ёзная пагроза здароўю і жыцьцю мільёнаў людзей. Забруджаныя хмары пайшлі далёка на захад і поўнач, на тэрыторыю многіх краін Еўропы. Трагічны летапіс ахвяраў Чарнобыля ужо налічвае сотні тысячаў заўчасна загінуўшых, пакалечаных, хворых.

Наша Беларусь – краіна найбольш пацярпелая ад аварыі на Чарнобыльскай станцыі. Цалкам усю яе тэрыторыю радыёактыўная хмара накрыла ў першыя тры дні пасьля выбуху. Пад непасрэдна небясьпечным для здароўя забруджваньнем апынуліся 23% тэрыторыі Беларусі, на якой у 3 678 населеных пунктах жыло 20% насельніцтва рэспублікі. За перыяд з моманту катастрофы колькасьць здаровых дзяцей, якія жывуць на забруджаных тэрыторыях, паменшылася з 60% да 21%. Толькі 13% дзяцей, адселеных з зоны эвакуацыі, былі прызнаныя здаровымі. Пад медыцынскім назіраньнем цяпер у Беларусі знаходзяцца (яны хутчэй проста лічацца ў сьпісах тых, каму патрэбна такое назіраньне) 1 мільён 980 тысячаў чалавек, у тым ліку больш за 500 тысячаў дзяцей. Са сваіх тэрыторыяў, дзе радыёактыўнасьць вышэйшая за 15 кюры на квадратны кіламетр, урад Украіны адсяліў усіх; у раёнах Беларусі з такой жа забруджанасьцю і сёньня жыве 139 тысячаў чалавек...

У сваім спецыяльным Звароце да украінскага народу, да кіраўнікоў дзяржаваў, да ўрадаў і парляментаў замежных краінаў з прычыны закрыцьця Чарнобыльскай атамнай станцыі Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма нагадаў, што гэты злавесны назоў – Чарнобыль – навек застанецца ў гісторыі чалавецтва побач з іншымі сымбаламі страшэнных катаклізмаў, такіх, як Пампея, Герніка, Гірасіма...

Гэтая падзея была нядаўна адзначана і ў Чыкага. Генеральнае Консульства Украіны ў Чыкага наладзіла спецыяльнае прыняцьце для журналістаў і грамадзкасьці ў сувязі з афіцыйным закрыцьцём Чарнобыльскай АЭС. Урачыстасьць адбывалася ў будынку Украінскага нацыянальнага музэю. У сваім выступленьні Генеральны Консул Барыс Базылеўскі перш за ўсё падкрэсьліў велізарнае палітычнае значэньне таго, што адбылося. Ён гаварыў аб тым, што гэты акт вельмі важны перш за ўсё маральна; закрыцьцё станцыі неабходнае і народу Украіны, і народу Беларусі, і народу Расіі, і народам усёй сусьветнай супольнасьці. Ад імя ўраду сваёй краіны Генеральны Консул выказаў падзяку ўсім, хто матэрыяльна дапамог Украіне зьдзейсьніць гэты акт – Дэпартаменту энэргетыкі ЗША, Еўрапейскаму банку рэканструкцыі і развіцьця, Камісіі Еўрасаюзу.



Выступае Генеральны Консуль Украіны ў Чыкага Барыс Базылеўскі.

Патэнцыяльная небясьпека ў Чарнобылі яшчэ існуе: поўнасьцю праца па спыненьню і вывядзеньню гэтай атамнай станцыі з эксплуатацыі разьлягнецца на 8 гадоў. Унутры былога 4-га блёку – так званага аб'екту "Укрыцьцё" – застаецца яшчэ каля 160 тонаў ядзернага паліва, якое трэба выцягнуць адтуль і надзейна схаваць. Закрыцьцё станцыі патрабуе рашэньня яшчэ мноства навуковых, тэхнічных, сацыяльных, бытавых і шмат якіх іншых праблемаў.

Спецыяльна да гэтай падзеі Украінскі нацыянальны музэй падрыхтаваў цікавую выставу пра Чарнобыль, пра гісторыю катастрофы, пра самаадданую працу ліквідатараў, пра тое, як жылі і жывуць цяпер там людзі... Асаблівую ўвагу наведвальнікаў прыцягвае серыя жывапісных твораў сучаснага украінскага мастака Пятра Емца, а таксама альбом рэпрадукцый з яго карцінаў, які мае назоў "Званы Чарнобыля". Яны вельмі хвалюючь, гэтыя палотны – "Рэквіем па Сьвятой зямлі", "Уратуй і захавай", "Агеньчыкі надзеі"... Здарылася так, што пасьля аварыі на станцыі зусім тады яшчэ малады Пятро Емец тры гады запар працаваў у Чарнобылі ліквідатарам. Потым ён стаў мастаком. Тэма чарнобыльскай трагедыі стала вызначальнай у яго творчасьці, прымушала шукаць адпаведную стылістыку адлюстраваньня ўбачанага і перажытага, шукаць у тэхніцы малюнкаў, фарбах, кампазіцыі... Творы Пятра Емца зьместоўныя, дэкаратыўныя і надзвычай эмацыянальныя: гэта мастакоўскі ўскрык пра народную бяду, пра тых, каго ўжо няма з намі. Мастак нібы заклікае адысьці ад зямной мітусьні, пачуць душы тых, каго забраў з сабой чарнобыльскі монстр...



Пятро Емец: "Уратуй і захавай".

Станцыя афіцыйна спынена. Але праблемы засталіся. Працэс яе поўнай кансервацыі зойме яшчэ некалькі гадоў. Чорнае неба Чарнобыля ўвесь час урываецца і яшчэ будзе урывацца ў наша жыцьцё трагічным напамінам, і ня толькі напамінам. Ставіць кропку і біць у літаўры яшчэ зарана. Але мы ўдзячныя Украіне за гэты акт добрай волі – важны крок да таго, каб Чарнобыль стаў толькі гісторыяй.

# Помнік Геніюш схавалі ў падвале

**У гарадзенскім клюбе "Паходня" адбылася сустрэча зь Міхасём Скоблам, які падрыхтаваў да друку кнігу твораў Ларысы Геніюш**

Том, які выйшаў у "Беларускім кнігазборы", а таксама "Дзярэчынскі дыярыюш" самога Скоблы можна было набыць на сустрэчы. Прысутныя ўспаміналі пра паэтку, якая жыла на Гарадзеншчыне і памерла ў Горадні ў 1983 г.

Прафэсар унівэрсытэту імя Янкі Купалы Аляксей Пяткевіч быў сьведкам яе апошніх дзён. Гарадзенскія анколягі зрабілі апэрацыю, і паэтцы палепшала. Якраз быў каталіцкі Вялікдзень. Яна акрыяла, зрабілася бадзёрай і жыцьцярадаснай. І раптам злавесны момант. Уначы яе пацягнулі на паўторную апэрацыю. Ёй адразу пагоршала. Яна пачарнела, цяжка дыхала. Глядзела ўгору, ня ела, нікога не ўспрымала. Запалыя вочы, завостраны нос. Празь дзень, калі сп.Пяткевіч прыйшоў у шпіталь, там быў Юрка — сын паэткі. Ён сказаў: не заходзьце, яна нікога не пазнае. І яна памерла.

Хавалі яе ў Зэльве. Усе навакольныя вуліцы былі поўныя народу. Уся Зэльва прыйшла яе хаваць. Выступілі, апроч іншых, Адам Мальдзіс, Уладзімер Арлоў, некалькі словаў сказаў айцец Васіль — зэльвенскі сьвятар.

Наступным гаварыў прадпрымальнік Валянцін Дубатоўка, які яшчэ пяць гадоў таму дапамог выдаць у Слоніме факсыміле першага — праскага — зборніка Л.Геніюш "Ад родных ніў". Ён дапамагае і М. Скоблу. Удвох яны езьдзілі ў Прагу, дзе яна жыла да арышту. У зэльвенскай Траецкай царкве ўсталявалі памятную шыльду, прысьвечаную паэтцы. Гэта першая дошка на беларускай мове ў праваслаўнай царкве, зазначыў ён.

Юрка Голуб — гарадзенскі паэт, родам з Зэльвы. Ён зачытаў урывак з газэты "Беларус" за сакавік—травень 1983 г. Там паведамлялася, што нэкралёг у "ЛіМе" не пабаяліся падпісаць сем асобаў. Яшчэ школьнікам паэт заходзіў у хату Геніюшаў. Калі вучыўся ў Менску, паэтка пісала яму, называла "галубком залаценькім".

Міхась Скобла апавядаў пра тое, як цяперашнія ўлады і КГБ дружна адказваюць, што паэтка "не падлягае рэабілітацыі". Асабістую справу Ларысы Геніюш, па яго словах, чытаў сам Лукашэнка. Зрэшты, прасіць рэабілітацыі для мужнай сапраўднай беларускі ў сёньняшняй улады — папрosту амаральна.

У Празе захаваліся абодва дамы, дзе яна жыла, аднак за мяжой усталяваць мэмарыяльную шыльду яшчэ цяжэй, чымсьці тут. Сп. Скобла правёў параўнаньне зь Янкам Купалам — не на карысьць апошняга. У 1940-м годзе быў надрукаваны першы верш Геніюш... Яна пісала пра бел-чырвона-белы сьцяг, пра Пагоню, пра незалежнасьць. Першая яе кніжка датуецца 1942-м, годам...

Паэтка напісала аднойчы Машэраву: дапамажыце выехаць адсюль хоць куды, хоць да папуасаў! Адказ з ЦК КПБ падпісала тав. Палікарпава: *"Отказать. Зельва. Советская. Тениуш"*. Вось такая злавесная памылка ў прозьвішчы...

Палкоўнік Данілік з Ваўкавыскага КГБ памёр у 1996 г. у сталіцы. Быў кнігалюбам. У ягонай картатэцы адзначана невядомае выданьне: *"Л. Гениюш. "Из неопубликованного". Цена 1 рубль"*. Самой кніжкі Міхасю Скоблу адшукаць, аднак, не ўдалося. Дарэчы: можа, гэта быў машынапісны зборнік, зроблены самой паэткай альбо кімсьці зь яе сяброў — у адным паасобніку, напрыклад? А палкоўнік яго сканфіскаваў? Ну, а цана магла быць і пазначана — дзеля падабенства са звычайным выданьнем. Такая ў мяне ўзьнікла думка, калі я слухаў гэты аповед.

У Акадэміі навук захоўваецца больш за тысячу папак з архівам Геніюш. Да яе 100-годзьдзя можна было б падрыхтаваць нават 10-томнік, лічыць М.Скобла. Дарэчы, нечакана паступіла каманда выдаць кніжку паэткі ў дзяржаўным выдавецтве. Аднак гэта зноў будзе "дзяржаўны" варыянт Геніюш — з усімі ранейшымі цэнзурнымі праўкамі. У Зэльве было сабрана каля ста подпісаў, каб пераназваць Савецкую ў вуліцу Ларысы Геніюш. Улады нават стварылі камісію, вывучаюць меркаваньні насельніцтва. Надзеі, аднак, гэта не дадае.

Помнік Ларысе Геніюш ужо адліты, але калі яго ўдасца паставіць у Зэльве — не адкажа зараз ніхто. Паводле словаў М. Скоблы, помнік гэты стаяў раней у кабінэце Вольгі Іпатавай у Саюзе пісьменьнікаў. Але цяпер яго схавалі ў падвале і, відаць, — надоўга.

**Сяргей Астраўцоў** ("Наша Ніва")

**********************

**Паважаныя чытачы! Ці Вы ўжо пераслалі <u>Ахвяру</u> на нашу газэту?! Нам патрэбная Вашая дапамога...**

Янка Жамойцін (Варшава)

# ЮБІЛЕЙ АЛЯКСАНДРА БАРШЧЭЎСКАГА

2-га лістапада 2000 году мінула 70 гадоў ад нараджэньня Аляксандра Баршчэўскага ў сялянскай сям'і беластоцкіх Бандароў. Дзяцінства яго прайшло ва ўмовах сельскага бытаваньня, у безупыннай сувязі з прыродай, у дачыненьні з працай і абавязкамі сялян пакінула сьлед ва ўспрыманьні ім сьвету і ў пачуцьцях на цэлае жыцьцё.

Надуражлівасьць хлапца, разбуджаючая ў яго падсьведамасьці неспакой і хвалюючыя сны, схіляла заклапочаную маці лячыць дзіцё традыцыйна-народным звычаем — расьсейваньня пярэпалахаў. Сьведама ці не, але схільнасьці Алеся да асаблівых паводзінаў прычыніліся да рашэньня бацькоў зьмяніць ранейшую пастанову прыспасабленьня яго да гаспадаркі ды адправіць у сьвет на навукі.

Закончыўшы пасьпяхова ў 1955 годзе расейскую філялогію ў Лодзінскім унівэрсытэце, паступіў ён у аспірантуру з цьвёрдым рашэньнем пісаць кандыдацкую дысэртацыю з гісторыі, але не расейскай, а беларускай літаратуры. У сувязі з такім намерам, загадчыца новаадкрытай беларускай філялогіі ў Варшаве, праф. Антаніна Абрэмбска-Яблоньская, запрапанавала яму практычныя заняткі па беларускай літаратуры.

Пасьля напісаньня і абароны кандыдацкай дысэртацыі, прысьвечанай творчасьці Якуба Коласа, стаў Алесь штатным супрацоўнікам кафедры беларускай філялогіі Варшаўскага ўнівэрсытэту.

У 1975 годзе адыйшла з працы праф. А. Абрэмбска-Яблоньская, а на пасаду загадчыка кафедры беларускай філялогіі быў пакліканы А. Баршчэўскі і выконвае гэтую функцыю па сёньняшні дзень. Апрача гэтага А. Баршчэўскі на працягу многіх гадоў займаў або займае пасады, як Старшыня Галоўнага Праўленьня Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства, Старшыня Літаратурнага Аб'яднаньня "Белавежа", Старшыня Польскага Беларусазнаўчага Таварыства, Намесьнік Старшыні Саюзу Беларускіх Фальклярыстаў, Віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў.

У галіне навуковай дзейнасьці зьяўляецца аўтарам Гісторыі беларускай літаратуры і шматлікіх іншых навуковых публікацыяў, а таксама перакладаў з польскай, расейскай, украінскай моваў на беларускую і наадварот.

Дзіцячыя "пярэпалахі" і надуражлівасьць А. Баршчэўскага адгукнуліся ў яго паэтычных дэбютах у 1957 годзе, дзе выступіў ён (і выступае далей) пад псэўдонімам Алесь Барскі. Ягоная паэзія ад пачатку зьвязаная духоўна з каштоўнасьцямі сельскага жыцьця, сялянскай працы, прыроды, з пашанай роднай культуры, культам Айчыны, маці, паступова пашырыла кругавіды, пранікаючы ў таямнічы сьвет людзкога існаваньня. Імкненьні гэтыя зрадзілі супярэчнасьці ў паэтычных разважаньнях, неспакой, насіленьне настальгіі па згубленым бестурботным сьвеце дзяцінства, у які паэт безупынна вяртаецца:

Белавежа,
Бандары над рэчкай.
Тут мае Рымы і афіны
І кожны крок у сьвет.

Паколькі ў пачатковай фазе творчасьці А. Барскага заўважаецца ўплыў клясікаў Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Танка, А. Пушкіна і часткова С. Ясеніна, то з цягам часу паступова выпрацаваў ён уласны стыль паэзіі з удзелам формы белага і вольнага верша, з праявамі афарызмаў і больш складанай мэтафары.

Незалежна ад формы і ідэі верша, спалучаючы шчырасьць і прастату думкі з тэхнічным майстэрствам і эмацыянальным накалам, паэт стварае пластычныя вобразы, асабліва ў паэзіі, прысьвечанай Беластоцкаму краю.

Алесь Барскі апублікаваў пяць паэтычных зборнікаў пад загалоўкамі: "Белавежскія матывы", 1962 г., "Жнівень слоў", 1967 г., "Мой бераг", 1975 г., "Блізкасьць далёкага", 1983 г., "Лірычны пульс", 1987 г.

З жанру мэмуарнай літаратуры — празы выйшаў у 1982 г. у Менску зборнік пад загалоўкам "З пабачанага і перажытага".

"Nostalgie" — гэта зборнік выбраных вершаў Алеся Барскага ў дасканалым перакладзе на польскую мову Чэслава Сэнюха, са знакамітым уступам Тэрэсы Занеўскай і пад яе рэдакцыяй, які выйшаў друкам у 1999 г. у Беластоку.

На ўвагу заслугоўваюць шматлікія пераклады Алеся Барскага на польскую мову юнацкай і дзіцячай літаратуры...

Трапна, у маім перакананьні, схарактарызаваў у адным сказе творчасьць Алеся Барскага Г. Ваўкавыцкі, называючы яе "стоўпатвараньнем думак і пачуцьцяў".

Незалежна ад цяжкай апэрыцыі на сэрцы, актуальна А. Баршчэўскі працягвае выконваць дасюлешнія прафэсійныя абавязкі ў Варшаве і вядзе заняткі па беларускай літаратуры ў Люблінскім унівэрсытэце ім. М. Кюры-Складоўскай.

Няхай будзу мне дазволена скіраваць у адрас Юбіляра, апрача найлепшых пажаданьняў добрага здароўя, посьпехаў у далейшай працы і ў асабістым жыцьці, некалькі пытаньняў, якія, як я думаю, цікавяць паклоньнікаў ягонае творчасьці.

Няхай будзе мне дазволена скіраваць у адрас Юбіляра, апрача найлепшых пажаданьняў добрага здароўя, посьпехаў у далейшай працы і ў асабістым жыцьці, некалькі пытаньняў, якія, як я думаю, цікавяць паклоньнікаў яго творчасьці:

***— Твая творчасць, як і большасці белавежцаў, цесна звязана з Малой Айчынай — Беласточчынай, з карэннямі сельскага бытавання. Не зрадзілася ўсё ж такі яна з культурнай пустэчы. У якой ступені, на Твой погляд, паўплывала і на Тваю паэзію, і на літаратуру белавежцаў наогул культурная спадчына беларускага народа?***

— Як ніводная расліна ці дрэва не могуць існаваць без карэньняў, так і пісьменьнік ня можа жыць і тварыць без арганічнай сувязі з роднай глебай. Для мяне гэтай глебай зьяўляецца ўся рэчаіснасьць Бацькаўшчыны Вялікай, якую ты называеш "культурнай спадчынай беларускага народа". Думаю, што Малая і Вялікая Айчына — гэта два крылы, дзякуючы якім можам узлятаць у паветра і імкнуцца да сонца. Мяне палохаюць тыя паэты, якія пішуць так, як бы ў іх не было ні Малой, ні Вялікай Бацькаўшчыны. Можна быць вольным ад палітычных страсцяў, свабодным ад ідэалогіі і партыі, але нельга быць незалежным ад Айчыны. Я ёю зняволены быў, ёсць і буду. І ў гэтым „палоне" адчуваю сябе вельмі добра. Ён для мяне жыватворны і неабходны, так як вада, паветра і ежа. Без дзвюх Айчын я не быў бы я. Стаўся б пустым вакуумам і забіў бы самога сябе.



***— Як Ты ацэньваеш сучасныя суадносіны і ўзаемныя ўплывы літаратурнай і наогул культурнай дзейнасці „белавежцаў" з пісьмовасцю і культуратворствам Метраполіі, ды ў чым заключаецца Твой асабісты ўдзел у гэтых адносінах?***

— Зразумела, што нельга жыць, дзейнічаць і тварыць у ізаляванай пустэчы. У нас два вялікія ўзоры: літаратура беларуская і літаратура польская. Чытаючы белавежцаў, не цяжка адгадаць, хто з іх з якой літаратуры чэрпае натхненне і ўзоры. Я асабіста ў ранні перыяд творчасці ўглядаўся перад усім у беларускую літаратуру, на такіх пісьменнікаў як Я. Купала, М. Багдановіч, Я. Пушча, У. Дубоўка і Н. Арсеннева. У пазнейшы перыяд у большай ступені пачала мяне вабіць польская пісьмовасць. Сёння, не адкідаючы ні беларускага, ні польскага ўзору, стараюся самастойна мадэрнізаваць сваю паэтычную фразу. Кіруюся аднак безупынна думкай аб тым, каб тое, што пішу, было камунікатыўным і зразумелым для сярэднеадукаванага чытача. Што датычыцца маіх асабістых кантактаў з польскай і беларускай літаратурай, дык стараюся іх развіваць у такіх формах, як пераклады з беларускай мовы на польскую і наадварот.

***— Наколькі адпаведны ўплыў беларускай філалогіі ў Варшаве і беларусістыкі ў Беластоку на стан беларускай інтэлігенцыі ў Польшчы?***

— Я ганаруся тым, што болей за 90% настаўнікаў беларускай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах на Беласточчыне — гэта мае магістранты. Найбольш мяне ўзрушыла настаўніца беларускай мовы ў Бельскім ліцэі, мая даўняя магістрантка, якая некалькі гадоў таму прыслала ў Варшаву на нашу беларусістыку сваю дачку. Дарэчы, гэта вельмі добрая і салідная студэнтка. З другога боку, балюча перажываю тое, што ў большасці выпадкаў мае даўнія студэнты, а сённяшнія настаўнікі зарабляюць усяго каля 300 долараў у месяц. Горача прагну, каб так нашым выпускнікам, як і ўсім іншым беларусам у Польшчы жылося больш заможна і багата. А ўвогуле, дык хачу сказаць, што, у істоце, беларускай інтэлігенцыі, так на Беласточчыне, як і ў іншых рэгіёнах Польшчы ёсць вельмі мала або няма яе зусім. Гаворачы аб нацыянальнай інтэлігенцыі, маю на думцы тыя асобы, якія, як у працы, так і ў штодзённым жыцці, культывуюць беларускую тоеснасць і беларускую нацыянальную свядомасць і карыстаюцца паўсюдна беларускай мовай. На жаль, нацыянальны нігілізм датычыць не толькі шэраговых чыноўнікаў, але таксама і многіх беларускіх пісьменнікаў, якія ў штодзённым жыцці, па сутнасці, не карыстаюцца роднай мовай.

***— Пражытыя 70 гадоў і амаль 45 гадоў літаратурнай, навуковай і грамадскай дзейнасці схіляе, безумоўна, да рэфлексіі і падсумаванняў мінулага этапу. Ці хацеў бы Ты падзяліцца сваімі рэфлексіямі на гэтую тэму, ацаніць з перспектывы часу Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", якому Ты старшынстваваў на працягу некалькіх гадоў і выявіць сакрэт Тваіх намераў на будучыню?***

— Асноўная мая рэмінісцэнцыя такая, што час — гэта хутканогі, ці можа быстракрылы жулік, які безадказна ўсё хутчэй і хутчэй імчыць у вечнасць, пазбаўляючы пры гэтым нас духоўных і фізічных сіл. Пры гэтым ён — з'ява надзвычай справядлівая, бо ўсіх людзей трактуе аднолькава. Так ці інакш, маё мінулае ўсё даўжэйшае, а будучае ўсё карацейшае. Але ж гэта датычыць усіх людзей на свеце. Будаваць вялікія планы тады, калі чалавек пражыў 70 гадоў, па сутнасці, няма сэнсу. Я ўсё ж такі цешуся, што перажыў ужо 5 дзяржаўна-грамадскіх эпох: перыяд даваеннай Польшчы, савецкай улады, гітлераўскай Германіі і Народнай Польшчы. Зараз жыву ў эпосе новай Польшчы, якую сам не ведаю як назваць. Я шчаслівы, што ніводная з гэтых сістэм ні маёй сям'і, ні мяне асабіста не праследавала. Ніхто з маёй сям'і ніколі не быў у судзе і не сядзеў у турме. З гэтага вынікае, што маё жыццё было наогул шчаслівым. Што датычыцца творчых планаў на будучыню, дык хацеў бы напісаць кнігу аб сваім жыцці, паказаным на фоне тых грамадскіх і палітычных эпох, у якіх я жыў і якія добра запамятаў. А рэшту падкажа само жыццё. А што падкажа, не ведаю.

А Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" павінна існаваць і дзейнічаць. Тым болей, што носіць яно назву, запрапанаваную дзесяткі гадоў таму мною. На адным з пісьменніцкіх семінараў я для нашага руху запрапанаваў тры назвы: „Белавежа", „Падляшша" і „Пошук". Большасць удзельнікаў выказалася за „Белавежу". І так яно засталося да сёння. Што датычыцца мяне асабіста, дык мне ніякая арганізацыйная структура непатрэбная. Для творчага працэсу мне неабходныя папера, ручка, стол, час і спакой. І болей мне нічога не трэба.

***— Дзякую за размову.***

++++++++++++++++++++++++++++++

Афіцыйны курс даляра ЗША, усталяваны Нацбанкам Беларусі на 27 сьнежня, складае 1.178 руб., нямецкае маркі -- 559 руб., расейскага рубля -- 41,97 руб. Курсы абмену ў камэрцыйных банках складаюць 1.190--1.210 руб. **на чорным рынку даляр вырас на 10-20 руб. і "важыць" 1215-1230 руб.**

# Дабро і Воля

*Аляксандар Дабравольскі адказвае на пытаньні...*

**— Краіна перажывае стан, які можна ахарактарызаваць як культурную катастрофу. Па-Вашаму, у гэтым ёсьць прамая віна Лукашэнкі і яголых урадаў ці Лукашэнка проста бязвольны кіраўнік, які ня змог пераламіць агульныя тэндэнцыі, характэрныя для нашага рэгіёну?**

— У рэгіёне назіраюцца супрацьлеглыя тэндэнцыі. Ёсьць тэндэнцыі да дэмакратызацыі, самастойнасьці, аднаўленьня і разьвіцьця нацыянальных каштоўнасьцяў, і ёсьць тэндэнцыі звароту ў мінулае. Апошнія пераважаюць, калі людзі расчароўваюцца з-за таго, што перамены не паляпшаюць за кароткі час іх рэальнага жыцьцёвага ўзроўню. У нас мог бы быць і іншы баланс гэтых тэндэнцыяў, іншы вынік. Але наша кіраўніцтва культывавала нэгатыўныя тэндэнцыі звароту ў мінулае, а таксама нянавісьць і зайздрасьць — два асноўныя пачуцьці, якія цяперашняя ўлада ўсяляк падтрымлівае ў беларускага народу і на якіх і трымаецца. Калі б людзі думалі больш рацыянальна, яны ня сталі б падтрымліваць такое кіраўніцтва. Грамадзкая сьвядомасьць у значнай меры ірацыянальная, але я мяркую, што ёсьць пэрспэктывы зьмяніць сытуацыю і дадаць людзям рацыяналізму. Цёмныя пачуцьці, якія цяпер дамінуюць у беларускім грамадзтве, ня могуць прывесьці да паляпшэньня ні жыцьцёвага ўзроўню, ні самаадчуваньня людзей.

**— Новы прэзыдэнт, пад якімі лёзунгамі ён ні прыйшоў бы да ўлады, апынецца перад задачай кансалідацыі грамадзтва, расколатага цяпер паводле сацыяльных, ідэалягічных, моўных, рэлігійных, сьветапоглядных прыкмет. Якімі вы бачыце шляхі пераадоленьня гэтага расколу?**

— Асноўны раскол у нашым грамадзтве праходзіць паводле стаўленьня да аднаго чалавека. Прычым усе астатнія расколы справакаваныя менавіта тым, што цяперашняя ўлада паставіла пытаньне рубам: ці "за", ці "супраць". Калі гэтай улады ня будзе, калі людзі зробяць выбар на карысьць таго чалавека, які зможа кіраваць краінай бяз гэтага шалёнага жаданьня шукаць ворагаў, то ўсе астатнія праблемы вырашаць будзе значна лягчэй.

Людзі сапраўды па-рознаму бачаць шляхі разьвіцьця краіны, але цалкам супрацьлеглых пазыцыяў амаль няма. У грамадзтве пачнецца вялікая дыскусія, і новае кіраўніцтва павінна будзе сфармуляваць шлях разьвіцьця і выразную ідэалёгію, прычым пэўна, што ўжо ня будзе спробаў зрабіць гэтую ідэалёгію манапольнай. Дарэчы, такія спробы не ўдаліся і цяперашняй уладзе: мы памятаем, што некалькі разоў яна бралася выпрацаваць канцэпцыю нацыянальнай (хоць у адносінах да гэтай улады слова "нацыянальны" гучыць сьмешна) ідэалёгіі, але нічога ня выйшла. Што датычыць рэлігійнага расколу, то ў рэлігійных пытаньнях беларусы — талерантны народ, чаго нельга сказаць пра палітыку. Расколы зьнікнуць, калі зьнікне напружанасьць у грамадзтве, якая выклікана пошукам ворагаў.

**— Большасьць чытачоў нашай газэты — гэта людзі беларускае культуры. Але ў грамадзтве суіснуюць людзі беларускай і расейскай культур. Які магчымы варыянт рашэньня культурнай і моўнай праблемы, каб ні беларуская, ні расейская культуры не адчувалі ўціску? Якое месца ў будучай Беларусі будзе мець расейская мова і культура?**

— Тут ёсьць дзьве праблемы: першая — гэта неабходнасьць грамадзянскага міру, кампрамісу ў грамадзтве ў адносінах да шляхоў разьвіцьця культуры. І другая — гэта вельмі важная праблема аднаўленьня нацыянальнай самасьвядомасьці, разьвіцьця менавіта беларускай культуры. Зараз Беларусь амаль цалкам русіфікаваная. Спроба беларусізацыі, хоць і дала значны эфэкт, была ня вельмі ўдалай: адбыўся рэванш. Вельмі важна, каб дух рэваншызму застаўся ў мінулым. Справа ў тым, што цяпер большасьць людзей размаўляе па-расейску, але вельмі вялікая іх частка хацела б, каб адзінай дзяржаўнай мовай была беларуская. Гэта пакуль ня большасьць насельніцтва. Вельмі нечаканы эфэкт даў нядаўні перапіс насельніцтва. У людзей пыталіся, на якой мове яны гавораць у сям'і. Вынікі перапісу паказалі, што 37% размаўляюць па-беларуску — працэнт, якога мы не чакалі. Гэта быў палітычны пратэст супраць русіфікацыі. Людзі разумелі, што вынікі могуць быць выкарыстаны для абгрунтаваньня новай хвалі русіфікацыі, і выказаліся супраць. Гэта пацьвярджае канцэпцыю, якая ўпершыню была агучана Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў: беларускі нацыяналізм размаўляе па-расейску. Вяскоўцы, хоць яны і па-беларуску гавораць, ня лічаць для сябе праблемай аднаўленьне беларускай нацыянальнай культуры. А ў вялікіх гарадох, а таксама і ў маленькіх, ёсьць свае асяродкі, якія размаўляюць па-расейску, але хацелі б аднаўленьня нацыянальнай самасьвядомасьці і спрыяюць разьвіцьцю нацыянальнай культуры. Хоць яны самі ня носьбіты гэтай культуры, але яны да яе імкнуцца, і гэта вельмі важна.

Мне цяжка сказаць, якая можа быць канцэпцыя суіснаваньня ў нашым грамадзтве беларускай і расейскай моваў. Ніякая ўлада ня зможа вырашыць гэтае пытаньне, калі людзі не адчуюць у гэтым патрэбы. Яны ў сваёй значнай частцы, як мы цяпер бачым, гэтую патрэбу адчуваюць, але большыня грамадзтва яшчэ абыякавая.

І ёсьць такія ваяўнічыя русіфікатары, як Посахаў ці Замяталін, якія выступаюць за ідэю славянскай еднасьці, а калі паспрабаваць разабрацца, то проста за ідэю расейскага дамінаваньня. Але такіх мала. Гэтае пытаньне настолькі складанае, што я асабіста ня ўзяўся б прадказваць, што і як павінны мы рабіць, за выключэньнем таго, што трэба падтрымаць памкненьні да разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры і трэба рабіць гэта вельмі асьцярожна, бо асноўная частка грамадзтва да гэтага не гатовая і напалоханая той ідэалёгіяй, якая праводзілася ў апошнія гады праз усе СМІ.

Прапагандысты ад улады казалі, што разьвіцьцё беларускай культуры накіравана супраць Расеі. На самой справе мне здаецца, што расейскае пытаньне будзе тут вельмі важным, але для беларусаў найважней — зразумець, што мы самі адказныя за свой лёс. Ні Захад, ні Расея ня вырашаць нашых праблемаў. І я думаю, што той комплекс непаўнавартасьці, які ў нас ёсьць перад Расеяй, раней ці пазьней зьнікне.

**— Чалавек, які хоча стаць прэзыдэнтам, мусіць сфармуляваць для сваіх выбарцаў пэўную мару, як Лукашэнка, прыйшоў да ўлады, сфармуляваўшы мару "каб усё было як раней", мару вяртаньня ў мінулае. Зь якой марай можа выйсьці на выбары дэмакратычны кандыдат?**

— Паколькі грамадзтва ніяк ня вызначылася ў палітычных канцэпцыях, а расчараваньне цяпер вельмі моцнае і людзі хочуць пераменаў, бачачы, што ні да чога добрага вяртаньне ў мінулае не прывяло, то гэта, мабыць, будзе самае істотнае пытаньне наагул да ўсёй апазыцыі. Мусіць быць кантраст паміж прапановай Лукашэнкі і прапановай адзінага кандыдата ад апазыцыі. І, паколькі гэты кантраст неабходны, то ірацыянальнасьць, мне здаецца, ня лепшы шлях. У палітыцы ірацыянальнасьць можа выкарыстоўвацца, калі гаворка ідзе пра галоўныя, фундамэнтальныя каштоўнасьці, як, напрыклад, "любоў да Радзімы" — тут ужо ніяк нельга лягічна расправесьці, чаму мы любім нашу Беларусь. Але шляхі да паляпшэньня сытуацыі заўсёды рацыянальныя, і яны павінны быць простымі і зразумелымі. Асноўным палажэньнем такой праграмы можа быць плян эканамічнага разьвіцьця, бо праблемы, якія хвалююць людзей, у сваёй аснове сёньня эканамічныя — высокія цэны, малыя заробкі, беспрацоўе.

Акрамя вырашэньня эканамічных праблемаў нас цікавіць вяртаньне самапавагі беларускаму народу. Гэта вельмі глыбока сядзіць у грамадзкай сьвядомасьці, і людзі гэтага вэрбальна яшчэ не сфармулявалі, але гэта ўжо гучыць, бо яны бачаць, што зь Беларусі насьміхаюцца ўва ўсім сьвеце, што Беларусь знаходзіцца ў міжнароднай ізаляцыі і што ніхто сур'ёзна не ўспрымае таго, што думаюць беларусы, за што яны выступаюць. Фактычна людзі адчулі, што іх не паважаюць — ні ўлада, ні міжнародная супольнасьць. І Расея не цікавіцца тым, што думаюць беларусы. Я мяркую, што вяртаньне самапавагі будзе адным з асноўных палажэньняў передвыбарчай праграмы кандыдата ад аб'яднанай апазыцыі. Зразумела, што будзе гаворка і пра сацыяльную дапамогу, лепшую мэдыцыну, адукацыю, экалёгію, пра Чарнобыль. Але першыя два — эфэктыўная эканоміка і вяртаньне самапавагі — гэта галоўнае. Ну і, нарэшце, няма ніводнай дэмакратычнай партыі ці арганізацыі, якая б выступала за ліквідацыю сувэрэнітэту краіны.

**— Вы сказалі, што беларускае адраджэньне не скіраванае супраць Расеі. У той жа час Расея якраз баіцца беларускага адраджэньня і беларускай незалежнасьці. Якім чынам можна давесьці Расеі, што беларускае адраджэньне і незалежнасьць не нясуць небясьпекі інтарэсам Расеі і што апазыцыя, якая выступае за адраджэньне і незалежнасьць, не нясе небясьпекі інтарэсам Расеі?**

— Па-першае, паколькі канцэпцыя расейскіх палітычных эліт, якая да гэтага часу дамінуе, у значнай сваёй частцы імпэрская, то адраджэньне нацыянальных каштоўнасьцей у Беларусі і іншых краінах, якія раней былі ў СССР, яны ўспрымаюць як пагрозу для інтарэсаў Расеі. Вядома, калі хтосьці будзе адчуваць сваю нацыянальную самабытнасьць і разумець, што ён мае права быць гаспадаром на сваёй зямлі, то гэта пагроза для імпэрскіх інтарэсаў. Але імпэрскія амбіцыі шкодзяць самой Расеі. Дый імпэрская палітыка Расеі апошнім часам церпіць крах. Рэальных рэсурсаў — ня толькі эканамічных, ніякіх рэсурсаў — няма ў Расеі, каб аднавіць імпэрыю ў тым складзе, у якім яна была, больш за тое, гэтая імпэрыя яшчэ будзе распадацца. Такім чынам, цяпер перад Расеяй стаіць ужо новая задача, якой там ня могуць даць рады ўнутры краіны — захаваць імпэрыю, якая ёсьць цяпер. Станіслаў Багданкевіч калісьці адказаў расейскім палітыкам, якія сьцьвярджалі, што трэба Беларусь далучыць да Расеі, каб усе пытаньні вырашыліся: "Далучыце спачатку Прыморскі край да Расеі, каб там усё было ў парадку, а пасьля будзем размаўляць". Мне здаецца, што тут на дапамогу можа прыйсьці тая самая рацыянальнасьць, бо расейскае стаўленьне да Беларусі — вельмі ірацыянальная рэч. Але ў Расеі ўсё больш людзей, якія нас разумеюць. Наша задача — працаваць з расейскай палітычнай элітай, ня толькі каб ім патлумачыць, што мы нічога дрэннага ня хочам зрабіць Расеі, паважаем іх нацыянальныя інтарэсы і гатовыя іх улічваць, калі яны не супярэчаць нашым інтарэсам, але і каб зразумець, што новая палітычная эліта хоча бачыць у адносінах зь Беларусяй. Тут нейкія ўзаемныя крокі маглі б быць вельмі карысныя. Мы зараз займаемся гэтай справай і бачым, што самыя розныя людзі з расейскай палітычнай эліты, якія раней былі прыхільнікамі імпэрскіх ідэяў, цяпер зь вялікім разуменьнем ставяцца да таго, што Беларусь хоча быць самастойнай дзяржавай. Напрыклад, Фёдар Шэлаў-Кавядзяеў, былы намесьнік міністра замежных справаў, які ня раз выказваўся за "вялікую Расею", на адной зь нядаўніх канфэрэнцый зрабіў вялікі гістарычны даклад, дзе зазначыў, што, аказваецца, Вялікае Княства Літоўскае было адной з самых дынамічных і перадавых эўрапейскіх дзяржаваў, што прынцып падзелу ўладаў фігураваў яшчэ ў статуце ВКЛ 1588 году і быў рэалізаваны на практыцы задоўга да таго, як Мантэск'ё напісаў сваю вядомую працу "Пра дух законаў".

Пытаньне аб адносінах Расеі і Беларусі заўсёды будзе вельмі цяжкім, проста таму, што розьняцца масы нашых краінаў, і Расея заўсёды будзе імкнуцца дамінаваць. Гэта натуральна, і мы павінны гэта ўлічваць. Нікуды мы ня дзенемся ад Расеі ў геаграфічным сэнсе, нам трэба будаваць нармальныя партнэрскія адносіны, не варожыя, бо самае неразумнае, што можа быць, — гэта варожнеча з Расеяй.

Расейскае пытаньне для нас вельмі складанае. Я не лічу сябе ў ім вялікім экспэртам, і гэтыя мае разважаньні сьведчаць, што адназначнага адказу на яго няма. Адзінае, што для нас адназначна, і мы гэта заўсёды кажам нашым расейскім партнэрам, — мы абмяркоўваем усе пытаньні, акрамя беларускага сувэрэнітэту...

**У штодзённай мітусьні і дрымоце, — не забывайце дапамагаць нашай газэце!.**







OFFICE OF THE GOVERNOR
JRTC, 100 WEST RANDOLPH, SUITE 16
CHICAGO, ILLINOIS 60601

GEORGE H. RYAN
GOVERNOR

December 22, 2000

Mr. Nikolas Prusky
Editor
Bielarusian Digest
1086 Forest Hill Ave. S.E.
Grand Rapids, MI 49546-3616

Dear Mr. Prusky:

As Governor of the State of Illinois, I would like to congratulate your publication, "Bielarusian Digest" on 9 years of serving our communities.

Illinois is comprised of many ethnic communities that join to form a great state while also maintaining their rich cultural individualities. Your publication "Bielarusian Digest" serves as a vital link to the Bielarusian American community. Not only are your readers educated by its contents, but they benefit by affirming an invaluable connection to their heritage.

On behalf of the people of the State of Illinois, I commend your participation in the Bielarusian American community. The hard work that goes in to each and every publication is very much appreciated.

Sincerely,

George H Ryan

GEORGE H. RYAN
Governor

# SILENT DIALOGUE OF LUKASHENKO AND KOZAK

Tatyana KUCHINSKAYA

"Narodnaya Volya" is the first edition to be given an exclusive interview by the newly appointed US Ambassador in Belarus Michael Kozak since the moment of his appointment.

**- Mr. Kozak, I'd like to start with a question, which interests me as a journalist. Why, despite the fact that there has been no handing over of credentials to the president Lukashenko, you determined to break the silence and give an interview to our newspaper?**

- First of all I'm glad to be interviewed by your newspaper. From this moment, I hope, our meetings will take place on a regular basis.

As for the credentials, I can say that according to the diplomatic rules the person can start executing his or her duties ever since the moment the copy of his credentials has been submitted to the Foreign Ministry.

During certain period I believed that I had a lot of other things to do. I held series of meetings with other ambassadors, for example. But now I feel it's high time I started doing my job. I hope that the president will meet me whenever he deems it convenient.

**- The United States of America is not the country, whose ambassador could be ignored for a long time, is it?**

- I guess, you'll have to ask Lukashenko himself about his intentions. I don't feel like going into allegations. As for this concrete episode, my career experience tells me that the state leadership which most loudly boasts of its readiness for a dialogue, is least ready to go for it.

**- Why do they appoint you as head of the diplomatic mission in a country with a developing economy?**

- That's my lucky star. During all my career years I've never asked for promotion, nor did I turn down any proposals. I always took up new challenges, which they offered me. To some extent I was given the work, which no one else wished to do. However, I chanced to deal with very interesting cases.

**- What will be your top priority on the post?**

- I believe that during the next couple of months I will give priority to the work, which will ensure at least some level of democratic changes in your country. I will call upon the Belarusian authorities to comply with it.

On the world arena Belarus finds itself in a situation, when we can hardly negotiate with your authorities, in view of their illegitimacy. That's the key point.

**- What worries you most when it comes to the relationships between our two countries?**

- I'm greatly alarmed, and I mentioned it during my meetings with the government's officials, over the fact that the present-day relations between our states leave much to be desired.

That's explained by the fact that at the moment Belarus has a parliament, which we cannot recognize as the legitimate legislative authority, representing the interests of the peoples of Belarus. Nor can we grant legitimacy to your executive, whose mandate expired long time ago.

In the next year your country will hold presidential elections, which will either help us to correct our relations or change them for the worse. Given these elections satisfy the fundamental democratic norms and principles, written down in OSCE documents, our relations will seriously improve.

However, in case presidential elections do not differ in their core essence from the parliamentary ones, which never met the afore-mentioned norms and principles, you will have the executive and the legislative, none of which would enjoy international recognition. They will both lack authority to act on behalf of the nation…

We are alerted over the necessity to have such state structures in Belarus with whom the international community could deal as with the true representatives of the nation. That's the reason why we focused on democracy issues. It really looks as if we were in for a decisive year.

**- Do you think opposition has real chances of winning the race?**

- You know, the election campaign reminds me of a football game. One cannot defeat his opponent without a risk of losing the game himself. However, if you bound your rival hand and foot and he starts playing like that, can he possible claim a victory? No matter what the result is, it can hardly be called victorious.

Primarily, we make sure that the game rules and the sports ground, on which the game will be played, are equal for both sides.

If opposition candidates are brought to court on trumped-up charges, which prevent them from being nominated at the elections; if the electoral commissions take the official side, disqualifying opposition candidates for technical reasons; if opposition gains no access to media and the population remain clueless of their election platform, one can be certain that opposition won't have any chances of winning at all. Provided the authorities comply with these conditions, enabling opposition to deliver its ideas to the population, why can't it win?

**- You're a very experienced politician. I'd like to know your opinion about the future merger of Belarus and Russia.**

- That's one of the spheres, which suffers most from the lack of legitimate authority of the Belarusian government. I spoke with both Russia's and Belarus' officials. Neither of the sides seems to realize what will be the benefits from this unification. It's hard to call integration a positive idea, when the government lacks legitimacy.

**- How would you assess the level of economic and trade cooperation between our countries?**

- The answer is quite straightforward - it is on the bottom-line level.

There used to be the period when America invested money into your country. However, during the past couple of years the climate for foreign capital has significantly deteriorated. Belarus no longer receives new subsidies, while the old ones are gradually spent. Nobody can expect real profits from trading with the country, whose economy is shambles. I don't mean only the States, but other countries, as well. Seemingly, Belarus has problems with all foreign investors. That's what the bad news is all about.

**- Mr. Speckhard was greatly concerned about the destiny of the political prisoners Vladimir Kudinov and Andrei Klimov. He morally supported and encouraged their families, along with those of the missing oppositionists. Will you continue this noble practice?**

- Yes. Firstly, that's the general policy of our state. Secondly, we always try to help those in need, whose rights have been violated.

As for the disappearances, cessation of court persecution and release of dissidents I can only say that positive solution of these issues is one of the conditions, upon which our evaluation of the pre-election atmosphere in Belarus will largely be based. This will also influence the attitude of the international community.

"Narodnaya Volya", December 15, 2000

# НАМ ПІШУЦЬ...

## Гадавіна Слуцкага Паўстаньня ў Лёндане, Англія

25-га лістапада г. г. Згуртаваньне Беларусаў у В. Брытаніі сьвяткавала 80-ю гадавіну Слуцкага Паўстаньня. Сьвяткаваньне пачалося ў царкве сьв. Пятра і Паўла. а. А. Надсон адслужыў жалобную паніхіду за палеглых у гэтым Паўстаньні. У сваёй рэлігійна-патрыятычнай казані а. Надсон моцна падкрэсьліў ахвярнасьць паўстанцаў у змаганьні з няроўнымі сіламі працўніка, за ідэю незалежнасьці Беларусі.

Памяць пра іх ахвярнасьць павінна жыць і служыць як гістарычны прыклад для цяперашняга беларускага пакаленьня. На заканчэньне Багаслужбы царкоўны хор і прысутныя адсьпявалі "Сьвятая памяць".

Пасьля Багаслужбы прысутныя перайшлі ў Беларускі Культурны Цэнтар на афіцыйную частку сьвяткаваньня. Нягледзячы на дрэнную даждлівую пагоду на гэтую ўрачыстасьць прыбылі людзі з далейшых ды блізкіх ваколіц Лёндану.

Урачыстасьць адчыніла Старшыня ЗБВБ спд. Л. Міхалюк. Яна ад імя Згуртаваньня прывітала і падзякавала прысутным за ўдзел у сьвяткаваньні. Пасьля ўступнага слова спд. Міхалюк папрасіла прысутных устаць і ўшанаваць памяць Слуцкіх герояў хвілінай цішыні.

Прынагодны рэфэрат на тэму дня прачытаў студэнт Кэмбрыджскага ўнівэрсытэту сп. Мікола Пачкаеў на ангельскай мове. Рэфэрат надзвычай зацікавіў прысутных.

На заканчэньне ўрачыстасьці ўсе разам прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн — "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

Сяброўкі ЗБВБ прыгатавалі для прысутных багаты пачастунак. Пры чарцы віна прыемна было старэйшым спаткацца з маладым беларускім пакаленьнем, што нядаўна прыбыло да нас у Англію з Беларусі.

Час праляцеў хутка ды цікава і людзі памалу пачалі разязджацца.

*Сыльвэстар Будкевіч.*

## Сьвяткаваньне 80-х угодкаў Слуцкага паўстаньня ў Торонта, Канада.

26-га лістапада ў царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай адбылася ўрачыстая літургія з глыбока прачулай пропаведзьдзю. Пасьля літургіі была адслужана паніхіда па палеглых, якія аддалі сваё жыцьцё за волю Бацькаўшчыны. Аналой быў пакрыты беларускім сьцягам, а з бакоў стаялі сьцягі, канадыйскі і бел-чырвона-белы беларускі ды вянок.

Пасьля паніхіды ўсе перайшлі ў залю, дзе пры ўваходзе ўсім прыколвалі беларускія сьцяжкі.

Адчыніў акадэмію старшыня царкоўнага камітэту спадар Рымша. Пасьля хвіліны цішыні, прысутныя прасьпявалі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." Сп. Рымша коратка прамовіў і адчытаў прывітаньні.

Дзякуючы стараньням а. Аляксандра і матушкі, на піяніно былі ўдала выкананыя "Сьпі пад курганам герояў" і першы раз у Торонта — "Не пагаснуць зоркі ў небе".

Пасьля акадэміі сястрыцтва прыгатавала памінальны абед.

*Элеонора Пітушка.*

---

## Коратка пра беларускае жыцьцё ў штаце Вікторыя — Аўстралія.

У новым тысячагодзьдзі як ніколі раней беларуская грамада была багатая на падзеі. 7-га лістапада прыход БАПЦ Сьв. Віленскіх Мучанікаў і Беларускі Цэнтральны камітэт ды Пэнсіянерскі клюб ладзілі выязную маёўку ў гістарычную мясцовасьць Дальсфорд, дзе пры пошуках золата гэтая мясцовасьць дасягала 30.000 чалавек жыхароў і ўсе яны хацелі быць шчасьліўцамі. Вельмі цікавая мясцовасьць і сваім прыродным багацтвам ды гарыстымі лясными масывамі прыцягвае шмат турыстаў з цэлага сьвету.

Вось беларуская грамада Мельбурну наладзіла маёўку ў гэтую мясцовасьць, а сябра Ф. Корбут даў да дыспазыцыі сваю фарму. Фарма расположана сярод лесу з усімі прыроднымі багацьцямі, як мінеральная вада, вазярцо і ўсё што патрэбнае для пікніку. Пагода выпала цудоўная. Людзі сталі зьбірацца каля абеду і ўсё доўжылася да позьняга вечара...

--- * * *---

19-га лістапада БАПЦарква распачала сьвяткаваць свае ўгодкі прыходу Сьв. Віленскіх Мучанікаў. Сьв. Літургію да гэтай урачыстасьці адслужыў настаяцель а. А. Кулакоўскі. Ён сказаўшы прынагодную казань запрасіў прысутных завітаць у прыцаркоўную залю, дзе сястрыцтва прыгатавала смачную закуску. Тут адбыўся малебень-падзяка Богу за Яго дабрату, што пасьля 20-ці год служэньня ў чужой царкве, цяпер ужо 19-ць год мы маем сваю царкву. а. Кулакоўскі багаславіў сталы і прысутныя добра закусіўшы пры бадзёрым настроі сталі чакаць наступную праграму. Мастацкую частку вёў сп. В. Русак. Хор "Каліна" выканаў некалькі песень. Сп. В. Русак падзякаваў жанчынам за смачны абед, асабліва спд. Тамары Субач і Аляксандры Русак ды наагул усім жанчынам якія належаць да сястрыцтва. Спд. Вера Шайпак прачытала верш "Жальба". Сястрыцтва разыграла лятарэю даход з якой прызначаўся на пакрыцьцё расходаў на печыва. У чэсьць юбілею быў сьпечаны адмысловы каравай.

---* * *---

26-га лістапада Беларускі Цэнтральны Камітэт супольна з Парафіяй БАПЦ Сьв. Віленскіх мучанікаў адзначаў 80-я Ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. Сьв. Літургію адслужыў настаяцель протапрасьвіцер А. Кулакоўскі, а пасьля малебень за беларускі народ. Затым прысутныя перайшлі ў залю на сьвецкую частку ўрачыстасьці, дзе старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту сп. Паўло Гуз прывітаў прысутных ды папрасіў устаць ды прасьпяваць "Сьпі пад курганам герояў". Былі прачытаныя надасланыя прывітаньні з Канады ад спд. Р. Жук-Грышкевіч, ад Беларускага Аб'яднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі Сп. М. Раецкага, ад Гістарычнага Беларускага Згуртаваньня ў Аўстраліі сп. Віктара Кавалеўскага, ад ВК-ту Фэд. Рады Бел. Арганізацыяў у Аўстраліі сп. Паўла Гуз.

Пасьля гэтага сп. Вячыслаў Жукаў прачытаў даклад на тэму дня, а далей сп. А. Груша прадэклямаваў верш "Пагоня", сп. В. Шайпак верш малітву і Паўло Гуз зачытаў заклік з газэты "Ніва"— «Манаполія на праваслаўе», ды Ян Барысевіч сказаў некалькі добрых слоў пра збройны чын на Случчыне.

На заканчэньне сп. Паўло Гуз падзякаваў усім ды папрасіў усіх устаць і прасьпяваць гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

Трэба зазначыць, што прадстаўнік ад Бел. Цэнтр. Камітэту а. А. Грыцук годна рэпрэзэнтаваў беларусаў у Морэленд Етнік Коммуніты Консул, за што належыцца яму падзяка ад нашай грамады.

Людзі яшчэ доўга гутарылі ды ўспаміналі пра мінулае...

*Паўлюк Дуброўскі-Гуз.*

************************************************

## «Я МАГУ ЖЫЦЬ ЛЕПЕЙ!»

Так называецца сэмінар, заняткі якога ўжо пачаліся ў Беларусі. Мэта сэмінару — даць усім зацікаўленым, незалежна ад веку або ўзроўню адукацыі, магчымасьць навучыцца магчымасьці самапалепшаньня. Гэткае палепшаньне можна будзе здабыць ва ўсіх сфэрах жыцьця: сацыяльнай, фізычнай, духоўнай або фінансавай. Сэмінар паможа ўдзельнікам лепш выкарыстаць свой людзкі патэнцыял, пакажа, як здабываць асабістую незалежнасьць.

Сэмінар "Я магу жыць лепей!" выкладаецца для 10-20 слухачоў на падставе адмысловага падручніка, які падрыхтаваў былы дырэктар Беларускай Службы Радыё "Свабода" Вячка Станкевіч, базуючы яго на ведамых на Захадзе прынцыпах самапалепшаньня.

Кошты выданьня падручніка і першапачатковых арганізацыйных выдаткаў ужо пакрытыя праз ахвярнасьць сяброў Дарадчай Рады Сэмінару ў Амэрыцы. Сам сэмінар праводзіцца на самааплочванай аснове, аднак, каб дапамагчы студэнцкай моладзі і безпрацоўным створаны стыпэндыйны фонд.

Каб здабыць сродкі для фонду была створана Група Падтрымкі Сэмінару. Ейная задача — арганізаваньне розных прыбытковых мерапрыемстваў, заадно не адмаўляючыся ад грашовых ахвяраваньняў. Цяпер праводзіцца кампанія, каб колькасна павялічыць Групу да некалькі дзесяткаў асобаў.

Хто хоча даведацца болей пра дзейнасьць сэмінарнай акцыі або мае жаданьне далучыцца да Групы падтрымкі, можа пісаць на адрас нашае газэты, або тэлефанаваць на № тэль.: (732) 222-1951.

Вячка Станкевіч

************************************************

## КРЫК ДУШЫ

Беларусь. Беларусы. Гэтыя паняцьці такія блізкія і такія родныя,таму што Беларусь — мая Бацькаўшчына, а беларусы — мае суайчыньнікі. Даволі часта бываю на радзіме, увесь час сачу за тым, што там адбываецца, як жывуць людзі, з якімі клопатамі сустракаюцца на штодзень.

Спатыкаючыся з людзьмі з розных асяродзьдзяў стараюся стварыць сабе поўны вобраз сытуацыі ў Беларусі. Пра жыцьцёвы ўзровень беларусаў гаварыць прыкра, хоць ня ўсім жывецца на мяжы жабрацтва, бо ёсьць асяродзьдзе "новых беларускіх" бізнэсмэнаў, адзінай вартасьцю жыцьця якіх зьяўляюцца грошы. Але ёсьць людзі, якія маюць іншыя вартасьці, іншыя мэты да асягненьня, людзі, якім справа беларускасьці баліць як адкрытая рана.

Адной з такіх асобаў зьяўляецца мая добрая знаёмая з места Паставы, што на Віцебшчыне, Тамара Храпавіцкая. Менавіта з ёй я хачу вас пазнаёміць.

Тамара — настаўніца гісторыі, клясны кіраўнік аднае з двух беларускіх клясаў у рускамоўнай школе.

У гутарках з ёй я задавала шмат пытаньняў, якія мяне цікавяць. І хоць добра арыентуюся ў сытуацыі на беларусі, многія адказы прымусілі мяне глыбока задумацца.

Пачынаючы выказваць гэтую думку мела намер зрабіць рэпартаж, абапіраючыся на пісьмы Тамары і нашы з ёю тэлефонныя размовы, але дайшла да высновы, што ня варта дзяліць цэласьці, устаўляць камэнтары, дапасоўваць пытаньні да адказаў. Лепей апублікаваць ліст цалкам /зразумела, за поўнай згодай аўтаркі/, каб кожны, прачытаўшы мог пасвойму зразумець напісанае, а не стасавацца да маіх камэнтароў.

Вось гэты ліст...

"Жывучы на сваёй Бацькаўшчыне, мы — беларусы, адчуваем пэўны ўціск. Не шануецца наша мова, гісторыя, няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, якая-б працавала на беларускай мове. І, наогул, шчырыя беларусы ў сябе на Радзіме адчуваюць сябе людзьмі ніжэйшага гатунку. Такая палітыка ўладаў. Уявіце, што адчуваюць мае вучні, калі ім у вочы некаторыя настаўнікі кажуць, што беларуская мова нікому не патрэбная. Баліць за іх мая душа. Сорамна сказаць, але нават беларускіх падручнікаў у нас не хапае. Хацелася-б, каб мае дзеткі наладзілі перапіску з равесьнікамі з другіх краін, дзе беларуская мова ў пашане.

Я — бэнээфаўка і не хаваю свае погляды. Праз гэта мела і маю шмат праблемаў на працы. Не аднойчы мне пагражалі, што пазбаўлюся і жыцьця і працы, прапанавалі, каб сядзела ціха.

Колькі магла, сядзела ціха, але ўжо больш моўчкі глядзець на гэта брыдоцьце і пошасьць, што пануе ў нашай Беларусі, не магу. Стала рэдактарам незалежнай жаночай газэты "Сяброўка". Спадарыня "Сыстэма" адразу-ж занялася мною. У гэтую справу ўцягнулі майго трынаццацігадовага сына. Канфлікт сына з аднаклясьніцай, які яны паміж сабой даўно залагодзілі, пачалі штучна раздуваць,

падключылася да гэтага паліцыя і пракуратура. Але калі справа выйшла з-пад кантролі "сыстэмы" і разгалос пайшоў па асяродзьдзі, уся справа як хутка ўзьнікла, так хутка і зьнікла. Гэта доказ, што "сыстэма" баіцца грамадзкасьці. Калі бунтуецца адна асоба, яе можна заглушыць, але калі яе падтрымлівае грамадзкасьць, тады канфлікт лепей замяць.

Чаму я так усё падрабязна апісваю* Хацелася-б каб і за мяжой ведалі, што нас, сумленных беларусаў, на сваёй роднай зямлі душаць свае-ж, як гэта ні страшна, манкурты.

Мы, канечне-ж, не героі, грудзьмі на амбразуру не кідаемся. Але ўжо толькі за тое, што абараняем сваю мову, прапагандуем сваю культуру, а бывае, не вытрымаўшы, выказамся супраць саюзу з Расеяй, нам жыцьцё атручваюць. Перш за ўсё, праз усялякія дробязі: то лекцыі кідаюцца правяраць, то прэміі пазбавяць, то гадзін мала дадуць, то ў калгас лішні раз адправяць і г. д.

І ўсё-ж ад сваёй справы не адступлюся!

Хочацца зрабіць сур'ёзную жаночую незалежную газэту. У мясцовай апазыцыі, наогул, шмат задумак. І хоць магчымасьці не вялікія, але загарэліся ідэяй працаваць сур'ёзна з беларусамі замежжа, стварыўшы адпаведную газэту. Мы разумеем, што ў яе павінен быць высокі ўзровень. Можа, гэта толькі ружовыя мары. І тым ня менш... Будзем працаваць. Даражэнькія, пішыце. Мы просім маральнай, душэўнай падтрымкі, бо наша Бацькаўшчына ў бядзе!

Прачыталі напісанае і, пэўна, падумалі: пісьмо з фронту. Ня думайце, што ў нас усё так дрэнна. Людзі чытаюць незалежную прэсу, газэты рвуць з рук. Я заўважыла, што людзі пaступова разбураюць у сабе страх. Друкуюцца ў нашых газэтах пад уласнымі прозьвішчамі. Гэта прагрэс!

А якая цудоўная моладзь! Вучыцца ў рускамоўных школах, а гаворыць на цудоўнай роднай мове. Шчыра веру, што будучыня — наша. Жыве Беларусь!"

Вось дарагія чытачы, вам тэма для разважаньня. Як вы ацэніце гэта? Асабіста для мяне гэта крык зраненай душы.

Калі хто-небудзь захоча напісаць, скантактавацца са спадарыняй Тамарай, наладзіць перапіску з яе вучнямі, падтрымаць іх на духу /ці не парадокс гэта, што беларусы замежжа, нацыянальная меньшасьць у чужой краіне, маюць падтрымліваць беларусаў у Беларусі? Без сумненьня — парадокс./ Падаю адрас для кантактаў:

Тамара Храпавіцкая, вул. Ф. Скарыны, 12., г. Паставы, Віцебская вобл., 211840 Беларусь.

*Натальля Герасімюк, Беласточчына.*

## *Нашыя славутыя землякі*

**Ужо восем гадоў дзейнічае ў ЗША дабрачынны фонд "Ethnic Voice of America" пад кіраўніцтвам нашай зямлячкі, беларускі, спадарыні Ірэны Каляды-Сьмірноў.**

**Нарадзілася спд. Ірэна ў вёсцы Падкасоўе Навагрудзкага р-ну. Лёс яе склаўся так, што яшчэ дзяўчынаю апынулася яна на чужыне. І хоць цяжка было абсталёўвацца на новым месцы, не парывала яе сям'я духоўных сувязяў з Бацькаўшчынай, разам з іншымі беларусамі адбудоўвала ў эміграцыі нацыянальнае жыцьцё.**

**Дыяспара таму і завецца дыяспараю, што зьяўляецца працягам нацыі ў замежжы, не парываючы з ёю кроўнае і духоўнае повязі, і нават час гэтаму не перашкаджае. Таму ў 1992 годзе, калі прыехала спд. Ірэна пасьля доўгага расстаньня на Бацькаўшчыну, вельмі балюча, як сваё асабістае гора, успрыняла яна праблемы Чарнобыльскай Беларусі. З таго часу наша суайчыньніца вырашыла, што дапамога Беларусі — яе абавязак. Яна ўзьняла гэты Крыж і нясе дагэтуль. Больш таго, ствараючы дабрачынны фонд у ЗША, змагла яна знайсьці і згуртаваць вакол сябе аднадумцаў, людзей самых розных нацыянальнасьцяў, якія бязплатна, на дабрачыннай аснове, у вольны ад працы час, прыходзяць працаваць у Фондзе.**

**Спачатку Фонд накіроўваў у Беларусь гуманітарную дапамогу, потым пачаў адпраўляць дзіцячыя групы на аздараўленьне. Прыкладна 300 дзяцей з Беларусі кожны год атрымоўваюць магчымасьць, дзякуючы спд. Ірэне і яе паплечнікам, адпачываць і аздараўляцца ў Славеніі, Балгарыі і іншых краінах. Дапамагае Фонд і асобным сем'ям.**

**Фонд «Ethnic Voice of America» супрацоўнічае ў Беларусі з некалькімі арганізацыямі, ў тым ліку і з нашай — Міжнародным грамадзкім аб'яднаньнем "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Але спадарыня Ірэна і яе калегі заўсёды адкрытыя і для новых партнэраў, бо іх асноўная задача — дапамагчы Беларусі і беларусам.**

**Супрацоўніцтва, МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" з Фондам спд. Ірэны пачалося ў 1999 г. Спадарыня Каляда-Сьмірноў дапамагла нам адправіць дзіцячую групу на аздараўленчы адпачынак у Турцыю. Тады-ж, у 1999 г., зьвярнуліся ў нашу арганізацыю бацькі Сашы Гушчы, дзяўчыны, якая немаўляткам шмат пацярпела ад пажару і якой патрабаваўся шэраг апэрацыяў. Спд. Ірэна і яе Фонд адгукнуліся адразу, аплацілі білеты і іншыя патрэбы...**

**Улетку 2000 году "Бацькаўшчына" накіравала пры падтрымцы спд. Ірэны і яе Фонду ўжо дзьве групы дзяцей у Балгарыю. Працуючы ў гэтым напрамку з Фондам "Ethnic Voice of America", мы прапаноўвалі некалькі варыянтаў аздараўленчага адпачынку, але выбірала спд. Ірэна заўсёды самы найлепшы, каб беларускія дзеці змаглі атрымаць усё тое, што ўваходзіць у паняцьце "аздараўленьне" — экалагічна чыстае і вітамінная харчаваньне, паўднёвае сонца, мінэральныя басэйны, цёплае мора, увагу да сваіх патрэбаў і сапраўды добрыя сардэчныя адносіны. Больш таго, цікавіла спадарыню Ірэну і тое, каб дзеці пазнаёміліся з краінай, дзе адпачываюць, з яе звычаямі і традыцыямі, каб для маленькіх беларусаў былі наладжаныя экскурсыі і цікавыя паездкі.**

**Але ня толькі ў гэтым напрамку бачым мы падтрымку і клопат спадарыні Ірэны. У 1999 г. Беларускі нацыянальны грамадзкі арганізацыйны камітэт "Беларусь — 2000", створаны па ініцыятыве МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", распрацаваў праграму "Беларусь — 2000" у межах якой было падрыхтавана "Слова да беларускага народу. Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы". Гэтыя матэрыялы сталі вынікам працы многіх людзей і вартыя таго, каб увасобіцца ў кнігу. Спадарыня Ірэна прапанавала нам дапамогу ў іх выданьні. І цяпер дзякуючы ёй мы рыхтуем кнігу "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы", плянуем выдаць яе перад Трэйцім зьездам беларусаў сьвету.**

**Не пакідае без увагі спадарыня Каляда-Сьміроў ніводную праблему нашай арганізацыі. Самай першай адгукнулася яна на цяжкае становішча, у якое трапіла "Бацькаўшчына" пасьля абрабаваньня. У нас укралі аргтэхніку якраз напярэдадні шматлікіх мерапрыемстваў, плянаваных нашай арганізацыяй.**

**Супрацоўніцтва з гэтай жанчынай і яе Фондам ня толькі вялікая падтрымка для нас, але і вялікая адказнасьць. Жыцьцё Ірэны Каляда-Сьмірноў, яе адносіны да праблемаў і цяжкасьцяў іншых людзей, ахвярная праца на карысьць Бацькаўшчыны зьяўляюцца для нас прыкладам і тым узроўнем, на які мы павінны раўняцца.**

Алена Макоўская, Менск

# Што адбылося ў Белавескай Пушчы?

**Успамінае Станіслаў Шушкевіч**

Тую плётку, што вось у Белавескай пушчы быў разбураны Савецкі Саюз, часьцей за ўсё мне прыгадваюць тыя, хто не чытаў і белавескіх пагадненьняў, і наогул не разумее, што такое Саюз, чым ён быў і павінен быць.

Справа ў тым, што калі мы прыехалі ў Белавескую пушчу – а прыехалі мы туды на сустрэчу, на якую я запрасіў Ельцына, Краўчука, каб упарадкаваць складаныя эканамічныя пытаньні, якія ўзьнiклі паміж Расеяй, Украінай і Беларусьсю, якія абвесьцілі сябе незалежнымі. І шчыра кажучы, ніякага дакументу не было, не было нават загатоўкі яго. Былі пэўныя думкі, але падкрэсьліваю – мы прыехалі туды, каб разабрацца ў эканамічных адносінах і вырашыць, што рабіць далей.

Саюз на гэты час быў развалены, і гэта ўсе нармальныя людзі разумелі. Усе, хто сур'ёзна займаўся палітыкай або паліталёгіяй, разумелі, што ён быў развалены перш за ўсё таму, што быў некіруемы. У пэўным сэнсе цяперашняя Расея нагадвае той Саюз, але ён быў значна глыбей развалены. Таму што цяпер, калі ў Расеі, напрыклад, непадпарадкоўваецца Прымор'е або непадпарадкоўваецца Чачня ці яшчэ нехта, гэта адна справа, а тады непадпарадкоўваліся практычна ўсе суб'екты былога СССР, яны лічылі, што Масква навязвае ім непатрэбную палітыку, і, фактычна, адмовіліся ёй падпарадкоўвацца.

Але цяжка было жыць без Расеі, таму трэба было зь ёй дамаўляцца.

І самае важнае, што на працягу адной гадзіны сустрэчы ў Белавескай пушчы, куды мы вельмі хацелі прыцягнуць яшчэ і Назарбаева (але ён чалавек асьцярожны, ён застраў у Маскве – ён ня ведаў, ці то Гарбачоў возьме верх, ці то іншая групоўка), і вось мы ўтрох вельмі хутка прыйшлі да той высновы,



што мы канстатуем, што СССР, як геапалітычная рэальнасьць перастае існаваць. Мы нават не напісалі, што ён перастаў... На расейскай мове гэта гучала: "СССР как геополитическая реальность прекращает своё существование..." І калі мы аб гэтым дамовіліся, то трэба было напісаць усе тыя пункты, якія б дазволілі гэты мірны развод, гэтую мірную канстатацыю таго, што СССР як геапалітычная рэальнасьць ужо не існуе... каб гэта не прывяло да нейкіх складанасьцяў, каб не пачалася грамадзянская вайна, каб не было таго, што мы пасьля пачалі называць "югаслаўскім варыянтам".

На працягу аднаго дня мы, фактычны, дапрацоўвалі кожны артыкул, які за ноч падрыхтавала група, куды ўваходзілі добрыя палітыкі ад Украіны, Беларусі і Расеі. Але ніводная фармулёўка, апрача вось гэтага сказу, што "СССР как геополитическая реальность прекращает своё существование...", ніводная фармулёўка не была прынятая назаўтра ў тым варыянце, у якім прапанавала яе рабочая група.

Да васьмі гадзінаў вечара ўсё было скончанае, мы сабралі прэсавую канфэрэнцыю і аб'явілі ўсім, што падпісалі такое пагадненьне.

Цяпер часта забываюць, што пагадненьне было падпісанае шасьцю асобамі. Гэта кіраўнікі дзяржаваў і прэм'ер-міністры трох суб'ектаў. А заява аб падпісаньні гэтага пагадненьня ў дэталях, фактычна палітычная заява, была падпісаная Ельцыным, Краўчуком і мною. І я ганаруся гэтым да сёньняшняга дня.

КУЛЬТУРА

# Першы Беларускі Слоўнік

**Севярын Квяткоўскі**

Падрыхтаваны да друку першы ў найноўшай гісторыі Беларусі слоўнік беларускае мовы, зроблены паводле клясычнага правапісу -- тарашкевіцы. Пакуль слоўнік можна пабачыць толькі ў Інтэрнэце, але на пачатку 2001-га году мусіць выйсьці кніжка.

Слоўнік мае ўвабраць ня менш за пяцьдзясят тысяч словаў. Праца зробленая Сяргеем Дубаўцом, рэдактар слоўніка -- Сяргей Шупа. Цягам сьнежня ў Інтэрнэце зьявяцца словы на ўсе літары альфабэту. Укладальнікі слоўніка прапануюць усім зацікаўленым асобам дасылаць свае заўвагі й прапановы. А ў студзені-лютым выйдзе сама кніжка.

Зьяўленьне слоўніка беларускае мовы паводле клясычнага правапісу ў краіне чакаюць ужо досыць даўна. Наймeней, зь сярэдзіны 80-х гадоў, калі "тарашкевіца" пачала адраджацца разам з нацыянальнай сьвядомасьцю беларускае інтэлігенцыі.

У 80-я гады філёляг Вінцук Вячорка стаўся першым, хто паспрабаваў спарадкаваць тарашкевіцу. Вячорка акрэсьліў асноўныя правілы "тарашкевіцы". Пазалетась спадар Вячорка надрукаваў у часопісе "Спадчына" артыкульную

вэрсію правапісу. У сьнежні 1998 году адбылася Праская лінгвістычная канфэрэнцыя, дзе прыхільнікі тарашкевіцы ўзгоднілі навуковыя пазыцыі.

У шырокі ўжытак "тарашкевіца" пачала вяртацца ў канцы 80-х -- пачатку 90-х гадоў разам са зьяўленьнем газэтаў "Навіны БНФ", "Свабода" й "Наша Ніва". У апошнія дзесяць гадоў беларускі друк спазнаў мноства варыянтаў "тарашкевіцы". Кожнае выданьне мела свой погляд на клясычны правапіс. У выніку незалежны друк жыў у сытуацыі лінгвістычнага бязладзьдзя. І вось -- першая спроба навесьці парадак. Тлумачыць Сяргей Дубавец.

**С.Д.:** - Рэч у тым, што нельга разглядаць гэты слоўнік як помнік лексікаграфіі. Гэта Яго можна разглядаць як абсалютна жывы практычны дапаможнік, які разам з клясычным правапісам дасканаліцца, шліфуецца, узгадняюцца максымальна пазыцыі. Нават калі мы ўнясем максымум пажаданьняў і зробім кніжную вэрсію, то ўсё адно гэта будзе прамежкавае выданьне. Гэты слоўнік дасьць нарматуву можа быць працэнтаў дзевяноста пяць. А пяць працэнтаў заўсёды будуць зьмяняцца, дыскутавацца, шукацца іншыя варыянты.

Сяргей Дубавец і Сяргей Шупа працавалі над слоўнікам цягам 1999-га -- 2000-га гадоў. Падмуркам сталіся напрацоўкі Вінцука Вячоркі, аўтараў "Нашае Нівы", удзельнікаў Праскае канфэрэнцыі 1998-га году. Таксама выкарыстоўвайся досьвед некаторых кніжных выданьняў і часопісу "Архэ".

Ці выходзяць на навуковую размову лінгвісты, якія спавядаюць наркамаўку - правапіс, прыняты ў 1933-м годзе, які дагэтуль вывучаюць у беларускіх школах? Сяргей Дубавец сьцьвярджае, што вайны між лінгвістамі няма.

**С.Д.:** - У асноўным у іх такая пазыцыя, што яны прыглядаюцца. Ёсьць сярод іх радыкальныя праціўнікі клясычнага правапісу. Але найбольш аўтарытэтныя мовазнаўцы старэйшае школы - яны прыглядаюцца. Яны з задавальненьнем дыскутуюць з намі тыя ці іншыя пытаньні: будучы людзьмі разумнымі, яны ймкнуцца ня ўносіць у гэтую дыскусію нейкі ідэялягічны момант.

Як вядома, беларускія ўлады ўжо спрабавалі надаць лінгвістычнае праблеме палітычны аспэкт. У 1999-м годзе газэце "Наша Ніва" было вынесенае папярэджаньне за ўжываньне "тарашкевіцы". Але ж Вышэйшы гаспадарчы суд быў вымушаны адмяніць папярэджаньне. За тарашкевіцаю было прызнанае права зваіца клясычным правапісам.

У 1933-м годзе савецкая дзяржава сказіла клясычны правапіс, гвалтоўна й штучна паспрабавала наблізіць беларускую мову да расейскае. Увяла таксваную наркамаўку. Зрабіла з мовы суб'ект палітыкі. Сёньняшняя беларуская дзяржава працягвае колішнія савецкія традыцыі. Але ж рана ці позна штучныя пабудовы рассыпаюцца. Гэтак жа, як і сама савецкая дзяржава.

Ну а мы сьледам за слоўнікам беларускае мовы паводле клясычнага правапісу чакаем на падручнік "тарашкевіцы".

---

Літаратура

# Я. Колас у Польшчы

**Юрась Бушлякоў**

Калі палякі змогуць прачытаць сваёю моваю поўны тэкст Коласавай паэмы "Новая зямля"? Вядомы польскі перакладчык, папулярызатар беларускай літаратуры Чэслаў Сэнюх дакляруе завяршыць падрыхтоўку польскай вэрсіі паэмы к 2002 году, да 120-ай гадавіны з дня нараджэньня Якуба Коласа. Гэтым тыднем спадар Сэнюх удзельнічаў у менскіх сустрэчах, прысьвечаных праблемам мастацкага перакладу.

Узяцца за пераклад вялікай беларускай эпічнай паэмы Чэславу Сэнюху параіў некалі Янка Брыль. Праца гэтая доўжыцца ўжо 9 год - на сёньня спадар Сэнюх пераклаў 25 з 30 песьняў твору. Перакладзеныя фрагмэнты друкаваліся ў некалькіх польскіх часопісах - такім чынам, яшчэ ў працэсе перастварэньня пра "Новую зямлю" папольску добра вядома, гучаць у цэлым вельмі пазытыўныя ацэнкі перакладу. Сам Чэслаў Сэнюх называе працу з "Новай зямлёю" справаю свайго жыцьця й спадзяецца парадавацца за выхад будучай кніжкі перакладу ў сьвет. У часе круглага стала, які Саюз беларускіх пісьменьнікаў ладзіў супольна з Польскім інстытутам у Менску й Польскім навуковым таварыствам, перакладчык паабяцаў прысутным скончыць пераклад да найбліжэйшага Коласавага юбілею - на 2002 год прыпадае 120-ая гадавіна з дня нараджэньня беларускага клясыка.

Тым часам на фоне прыхільнага стаўленьня спэцыялістаў да ўжо апублікаваных па-польску фрагмэнтаў "Новай зямлі" чуваць і галасы скептыкаў, якія сумняюцца ў актуальнасьці самога перакладу - маўляў, беларускі твор, ідэнтычны паводле сваіх мастацкіх парамэтраў польскім эпічным палотнам першай паловы XIX стагодзьдзя, можа цікавіць сёньня па-за беларускаю прастораю адно гісторыкаў літаратуры. Менавіта з пытаньнем пра пэрспэктывы польскамоўнай вэрсіі "Новай зямлі" на польскім кніжным рынку я й зьвярнуўся да Чэслава Сэнюха.

У мяне ёсьць і такія думкі - нараджаюцца... Але я вярнуся да панятку "тавар". Калі гэта будзе добра пададзена й адпаведна пракамэнтавана: "Вось глядзеце, "Пан Тадэвуш" ужо мае тры поўныя пераклады на беларускую мову, тры разы выдавецтвы рызыкавалі, выдавалі й прадалося ўсё. А "Новая зямля" - гэта ж супастаўны твор, гэта такі сялянскі "Пан Тадэвуш". І гляньце, што Вы там знойдзеце - там Вы знойдзеце прыгажосьць наднёманскай зямлі, прыгажосьць аўтэнтычных сялянаў, тых сялянаў, якія ўмелі ня толькі паном служыць, але яшчэ й умелі быць гаспадарамі на сваім, і хацелі быць гаспадарамі на сваім. Дык вось глядзеце - вось такі твор ёсьць, і ён перакладзены на польскую мову".

Я імправізую, але ўсё гэта магчыма. Гэта можна зрабіць, трэба толькі адпаведны падыход. Калі гэта выйдзе ў час, калі вакол гэтага перакладу выдавецтвам ці спонсарам будзе зробленая адпаведная рэклямная кампанія, дык я магу сказаць - зарызыкую, ну можа ня горлам, але рукою сваёю правай, якою пішу пераклад, - што спакойна пяць тысяч паасобнікаў мы маглі б прадаць. Людзі б купілі, і было б цікава. Мне здаецца, каб гэтае выданьне было ілюстравана, як ілюстраваны Васілём Шаранговічам беларускі "Пан Тадэвуш", то была б тады з гэтага вялікая справа.Тады мы можам разьлічваць на тое, што пяць тысяч экзэмпляраў, а гэта пры сёньняшнім рынку немалая колькасьць, знойдуць сваіх чытачоў.

Спадзяецца польскі перакладчык беларускай "Новай зямлі" Чэслаў Сэнюх. Дарэчы, будучы гэтым тыднем у Менску, ён гаварыў ня толькі пра "Новую зямлю" - прапанаваў беларускім калегам таксама й свой праект літаратурнай узаемапапулярызацыі. На думку Сэнюхаву, прычыніцца да актывізацыі беларуска-польскіх літаратурных кантактаў - што прыемна, зусім не фатальных на фоне нашых кантактаў зь іншымі - мог бы спэцыялізаваны часопіс перакладаў. Чэслаў Сэнюх.

Было б вельмі добра, каб знайшліся маладыя дынамічныя здольныя людзі, здольныя думаць катэгорыямі трансгрэсіі - перасяганьня самога сябе й сваіх магчымасьцяў... І каб заснавалі часопіс, ну скажам, месячнік - польска-беларускі, дзе палякаў бы перакладалі на беларускую мову для беларусаў, а беларуская літаратура прэзэнтавалася б у перакладзе на польскую мову. Я абсалютна перакананы, што знойдуцца ў Польшчы людзі, якім такая ідэя будзе даспадобы. Толькі нехта мусіць рэалізаваць такую ініцыятыву. Мне будзе вельмі прыемна, калі ўзьнікне такі часопіс. І яшчэ - паставіць яму помнік з граніту ці мармуру, і будзе там прозьвішча маё, што я кінуў гэтую ідэю. Дай Бог, каб гэта спраўнілася.

Пажаданьне польскага перакладчыка, чалавека родам зь беларускае Любчы Чэслава Сэнюха.



# Другое дыханьне мовы

**Віктар Мухін**

Першая ў гэтым тысячагодзьдзі нарада ўкладальнікаў клясычнага правапісу беларускае мовы адбылася 3-га студзеня ў Менску. Папярэдняя зборка беларускіх мовазнаўцаў ладзілася ажно летась увесну. З таго часу неаднаразова рабіліся спробы зноў сабраць лінгвістаў, зацікаўленых у кадыфікацыі клясычнага правапісу, але толькі цяпер адбылося першае пасьля доўгага перапынку паседжаньне.

Першая спроба сфармуляваньня правілаў для карыстальнікаў клясычнага варыянту правапісу была зроблена Вінцуком Вячоркам, як надрукаваў праект збору артаграфічных нормаў у пятым нумары часапісу "Спадчына" за 1995 г. 5-6 сьнежня 1998 г. у Празе адбылася канфэрэнцыя, што мела за мэту абмеркаваць Вячоркаў праект і ўсталяваць дакладныя правілы на ўсе спрэчныя моманты правапісу. Нястача часу не дазволіла канфэрэнцыі разьвязаць усіх пытаньняў. Запачаткаваная ў Празе праца працягвалася й у Менску цягам двух наступных гадоў на адмысловых лінгвістычных зборках.

Сёлетняя першая нарада ўкладальнікаў клясычнага правапісу мела зьбольшага арганізацыйнае значэньне: былі акрэсьленыя асноўныя нявырашаныя праблемы нашага правапісу. Пасьля сканчэньня працы канчальны варыянт беларускага клясычнага правапісу будзе паданы ў Інтэрнэце, а гэтаксама выдадзены асобнаю кніжкаю. Вінцук Вячорка перакананы, што ўсе спрэчныя моманты правапісу будуць разьвязаны ў першай палове 2001 г.:

**В.В.:** - Я ўсьцешаны тым, што нам сёньня собіла аднавіць зборкі нашай правапіснай групы - гэта прыблізна тая група, якая рыхтавала праект правапіснага збору перад Праскаю канфэрэнцыяй. Пасьля Праскае канфэрэнцыі практыка засьведчыла існаваньне некалькіх не да канца вырашаных правапісных пытаньняў. Сёньня мы іх паўторна сфармулявалі й маем намер за бліжэйшыя месяцы два-паўтара калектыўным розумам усіх моўных экспэртаў-карыстальнікаў "тарашкевіцы" сфармуляваць прымальныя правілы й выйсьці на публіку з больш-менш завершаным правапісным зборам, на падставе якога можна будзе вэрыфікаваць слоўнікі й прыступаць да граматычнае працы.

**В.М.:** - Ці можаце Вы акрэсьліць кола тых пытаньняў, якія выклікаюць цяпер найбольшыя спрэчкі?

**В.В.:** Мы зноў вярнуліся да асноўнае праблемы беларускае графікі й альфабэту - гэта статус літары "г" для выбухнога гуку. І гэта шэраг пытаньняў уласна правапісных - перадусім зьвязаныя зь іншамоўнымі словамі праблемы пасьлянаціскавага -э альбо -а. Скарачэньне ці нескарачэньне на пісьме злучніка "і", як пісаць - "бацька і сын" альбо "бацька й сын". І астатнія, менш істотныя, праблемы стасуюцца іншамоўнае лексыкі - як перадаваць англасаксонскі гук, які пазначаецца там літараю "h", - літарай "х" ці то літараю "г".

**В.М.:** Калі грамадзкасьць можа спадзявацца на выхад ужо зацьверджанага правапісу?

**В.В.:** Рэч у тым, што 97% правапіснага збору былі абмеркаваныя й зацьверджаныя ў Празе, і вяртацца да іх ніхто ня будзе, пераглядаць нешта. А вось гэтыя 3% нам трэба за два месяцы пераглядзець.

Апроч вышэй згаданых пунктаў найбліжэйшым часам мае быць вызначана правіла напісаньня літараў "у" і "ў" пасьля зычных (напрыклад, "Франсўа") і на пачатку словаў кшталту "Ўокер". Ёсьць спадзяваньне, што будзе сфармуляванае правіла ўжываньня вялікае й малое літараў. Даўно існуе разнабой у напісаньні словаў кшталту "гіерархія" ці "герархія" - і на гэта беларускія мовазнаўцы абяцаюць даць цьвёрдае правіла.

Па зьяўленьні правапісу ў друку ён будзе канечны для ўсіх карыстальнікаў "тарашкевіцы". Варта зацеміць, што мовазнаўцы нашае радыёстанцыі былі адныя зь першых, хто зьініцыяваў аднаўленьне чыннасьці ў справе ўдакладненьня клясычнага правапісу. Трывалыя правілы й нязьменныя прынцыпы нашага правапісу маюць забясьпечыць паступовае разьвіцьцё беларускае мовы...

Паводле Радыё "Рацыя"

## Дарагія Сябры і Прыхільнікі!

Ніжэй друкуем гадавы СЬПІС нашых сяброў, прыхільнікаў і людзей добрае волі, якія — адны больш, іншыя менш — выдатна і шчыра дапамаглі нашай агульнай справе...

**Усім Вам Вялікае Дзякуй!**

**Усе ахвяраваньні падаюцца ў пераліку на амэрыканскія даляры.**

У 2000-м годзе мы атрымалі наступныя ахвяраваньні на публікацыю нашае газэты:

### I.
### Ахвяры $200.oo, ці больш даляраў...

1. **Натальля і Анатоль Лук'янчык $550.oo**
2. **Др. Мацьвей В. Смаршчок $385.oo**
3. **Аўген Груша (Аўстралія) $270.oo**
4. **Др. Барыс Рагуля (Канада) $230.oo**
5. **Пятро Шыркоўскі (Англія) $220.oo**
6. **Каця Вініцкая $210.oo**
7. **Др. Віталі Міленцэвіч (Аўстралія) $200.oo**
8. **Др. Уладзімір Набагез $200.oo**
9. **Ліна і Мікола Сагановіч $200.oo**

### II.
### Ахвяры $100.oo, ці больш даляраў...

1. Віталі Кажан $185.oo
2. Уладзімір Ракуць $150.oo
3. Мікола Сьнежка $150.oo
4. Сыльвэстар Будкевіч (Англія) $150.oo
5. Др. Міхась і Таня Жылік $150.oo
6. Якуб і Маргарыта Сапежынскі $150.oo
7. Мікола Грэбень $140.oo
8. Язэп Т. Бабіцкі $130.oo
9. Арсень Монід (Канада) $125.oo
10. Славік Шабовіч $125.oo
11. Тамара і Міхась Белямук $120.oo
12. Др. Уладзімір Жарскі $110.oo
13. Юзэфа Найдзюк $110.oo
14. Надзя Касмовіч (Нямеччына) $110.oo
15. Кляра Кумэйша $100.oo
16. Др. Язэп Сажыч $100.oo
17. Нікадэм Жызьнеўскі $100.oo
18. Кастусь Вайцяхоўскі $100.oo
19. Зоя Смаршчок (Бельгія) $100.oo
20. Паўло У. Грынкевіч $100.oo
21. Ірэна Цупрык $100.oo
22. Людміла Лабовіч-Колін $100.oo
23. Лявон Норык $100.oo
24. Міхась Каленік $100.oo
25. Уладзімір Бельмач (Канада) $100.oo
26. а. Алесь Яноўскі (Канада) $100.oo
27. Беларуска-АмэрыканскіГрамадзкі Цэнтар (Нью Джэрзі) $100.oo
28. Грэнд Валей Стэйт Юнівэрсіты $100.oo
29. Праф. Томас Бірд $100.oo
30. Праньціш Бартуль $100.oo
31. а. М. Бурнос (Аўстралія) $100.oo
32. З продажы газэты (Аўстралія) $100.oo
33. Галіна Руднік (Нямеччына) $100.oo
34. Др. Юры Арэхва $100.oo
35. Аўген Завістовіч $100.oo
36. Элеанора Пітушка (Канада) $100.oo
37. Аддзел БАЗА ў Кліўлендзе $100.oo
38. Таіса Чабатарэвіч $100.oo
39. Лёнгіна і Уладзімір Брылеўскі $100.oo

### III.
### Ахвяры $50.oo, ці больш даляраў...

1. Івонка Сурвілла (Канада) $90.oo
2. Алена Сенько (Англія) $90.oo
3. а. Міхась Страпко $80.oo
4. Жорж Навумчык $70.oo
5. Юлія Андрусышын $70.oo
6. Георг Корчык $70.oo
7. Лявон Кавалёў $60.oo
8. Віталь Зайка $60.oo
9. Адольф Субота $60.oo
10. Віталь Церпіцкі $60.oo
11. Янка Шымчык $55.oo
12. Уладзімір Пелеса $50.oo
13. Расьціслаў Завістовіч $50.oo
14. Мікола Галоўка $50.oo
15. Др. Марыя Дэмковіч $50.oo
16. Георг Арцюшэнка $50.oo
17. Анна Брушкевіч $50.oo
18. Мікола Касьцюк $50.oo
19. Юрка Касьцюкевіч $50.oo
20. Ольга Грыцук (Канада) $50.oo
21. Гэнрык Сенькевіч $50.oo
22. Яніна Кахаnоўская $50.oo
23. Уладзімір Сітнік $50.oo
24. Мікола Абрамчык $50.oo
25. Астап Яраховіч $50.oo
26. Васіль Плескач $50.oo
27. М. К. (Канада) $50.oo
28. Барыс Русак $50.oo
29. Уладзімір Валаткевіч $50.oo
30. Марыя Кулагін $50.oo
31. Гаэз Маталыцкі $50.oo
32. Зоя і Ванкарэм Нікіфаровіч $50.oo
33. Янка Азарка $50.oo
34. Марат Клякоцкі $50.oo
35. Др. Мікола Яўдосюк $50.oo
36. Каса БНР $50.oo
37. Антон Даніловіч $50.oo
38. Ванда Махнач $50.oo
39. Марыя Лазар (Канада) $50.oo
40. Таня Кананчук $50.oo
41. Др. Лявон Трусэвіч $50.oo
42. Ніна Кіт $50.oo
43. Др. Вітаўт Рамук $50.oo
44. Раіса Галяк $50.oo
45. К. Пануцэвіч $50.oo
46. Кастусь Калоша $50.oo
47. Яраслаў Калюцік $50.oo
48. Др. юрка Чарнэцкі $50.oo
49. Сьвятлана Белая $50.oo
50. Уладзімір Траскевіч $50.oo
51. Юстын Ягоўдзік $50.oo
52. Алекс Захаркевіч $50.oo
53. Вацлаў Меліяновіч $50.oo
54. Аляксандар Сільвановіч $50.oo
55. Валентына Ягоўдзік $50.oo
56. Др. Анатоль Санковіч $50.oo
57. Анатоль Тальянскі $60.oo

### IУ.
### Ахвяры $48.oo, ці менш даляраў...

1. М. Швэдзюк (Англія) $45.oo
2. Т. Д. (Англія) $45.oo
3. А. Ражанец (Англія) $45.oo
4. В. Еўдакімаў (Англія) $45.oo
5. Ф. Зынгель (Англія) $45.oo
6. Міхась Бахар $40.oo
7. Аляксандар Міраеўскі $40.oo
8. Гэнрык Францкевіч $40.oo
9. Др. Алесь Туркоўскі $40.oo
10. М. Дзейко (Англія) $37.oo
11. Марыя Мароз (Англія) $37.oo
12. М. Баяроўскі (Англія) $37.oo
13. М. Залога (Англія) $37.oo
14. Антоні Філістовіч $35.oo
15. Барыс Данілюк $35.oo
16. Паўло Гуз (Аўстралія) $31.oo
17. Пятро Нягода $30.oo
18. Міхась Шабеко $30.oo
19. Уладзімір Русак $30.oo
20. Прапаведнік Ю. Рапэцкі (Канада) $30.oo
21. Віктар Касьцюкевіч (Канада) $30.oo
22. а. Максім Таўпека (Канада) $30.oo
23. Васіль Шчэцька $30.oo
24. Міхась Сенько $30.oo
25. Ванда Мазуро $30.oo
26. Анатоль Колбун $30.oo
27. Л. Міхалюк (Англія) $30.oo
28. А. Семашко (Англія) $30.oo
29. Алесь Кузьміч $30.oo
30. Др. Елена Коўшовік $30.oo
31. Еўгенія Юрша (Аўстралія) $30.oo
32. Сьцяпан Наумчык $30.oo
33. В. Сергіевіч $30.oo
34. Аўген Кабяко $30.oo
35. Стывэн Махакей $30.oo
36. Алесь Шастак $25.oo
37. Гэлена Сысой $25.oo
38. Леў Стагановіч $25.oo
39. Надзя Барт (Нямеччына) $25.oo
40. Юрка Сажыч $25.oo
41. Ліда Катовіч $25.oo
42. Др. Янка Запруднік $25.oo
43. Генадзі Дубяга $25.oo
44. Янка Каваленка $20.oo
45. Уладзімір Траскевіч $20.oo
46. Вацлаў Радзюк $20.oo
47. Галіна Мароз $20.oo
48. Валянтына Яцэвіч $20.oo
49. Гэлен Кананчук $20.oo
50. Вацлава Вярбоўская $20.oo
51. Аўген Кажан $20.oo
52. Віктар Балтрусевіч $20.oo
53. Станіслаў Янкоўскі $15.oo
54. Янка Юхнавец $10.oo

**Вось так выглядае фінансавая справаздача "Беларускага Дайджэсту". Шмат хто чытае нашу газэту "за дурніцу". З гэтым будзем старацца змагацца. Такая рэчаіснасьць...**

**Яшчэ раз шчыра дзякуем Усім нашым дабрадзеям і прыхільнікам... God bless you!**

## Будова Беларускага музэю ў Гайнаўцы памалу прадаўжаецца...

Фінансаваная швайцарскім урадам камісія-фонд, пасьля дакладнае праверкі і вывучэньня справы будаўніцтва музэю, перадала на заканчэньне будовы Беларускага музэю ў Гайнаўцы 550.000 злотых (гэта каля 140.000 тысяч даль.). Гэтая ўстанова прыйшла да заключэньня, што Беларускі музэй у Польшчы патрэбны.

У мінулым годзе таксама было перададзена музэю 39.000 тысяч злотых з Амэрыкі, якія сабраў на гэтую мэту "Беларускі Дайджэст". Музэй атрымаў таксама ад Гайнаўскага старостваа 10.000 тысяч злотых на выканчальныя работы. Нарэшце пачало выглядаць, што справа заканчэньня будовы музэю кранула з месца, хоць пэўныя значныя няўвязкі ў будаўнічым камітэце прадаўжаюць існуюць...

## Міхаіл ЧЫГІР прагназуе...

Экс-прэм'ер Беларусі Міхаіл Чыгір прагназуе, што ў 2001 г. у Беларусі адбудуцца кардынальныя перамены. "Абсалютная бальшыня насельніцтва ўжо пераканалася, што абраны цяперашнім кіраўніцтвам краіны шлях палітычнага і эканамічнага развіцьця завёў яе ў тупік. Значыць, у наступным, 2001 годзе, магчымая і зьмена лідэра", - сказаў Міхаіл Чыгір у інтэрвію БелаПАН. Зараз, паводле палітыка, яшчэ цяжка гаварыць пра "сцэнар" працэсу зьмены ўлады. Апазыцыйныя сілы знаходзяцца ў стане перамоваў, кансультацый, абмеркаваньняў. Сам Чігыр заявіў аб магчымасьці ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах і зараз рыхтуе сваю "каманду". Ён упэўнены, што здолее сабраць неабходныя для вылучэньня кандыдатам 100 тысяч подпісаў грамадзянаў.

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ.

Мы атрымалі наступныя выданьні:

1. МУЗЫКА і чэрці. Беларуская народная казка. Выдана ўпяршыню беларускім Выдавецтвам у Госьляры, Нямеччына, 1947 г., 16 бач.

Нядаўна перавыдаў гэтую кніжыцу Др. Мацьвей Рэпкаў Смаршчок у Мантысэля, што ў штаце Мінэсота, ЗША. Кніжыца прыгожа ілюстравана Я. Скарахoдам. Цікавае сувэнірнае выданьне.

2. БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА. Грамадзка-палітычны і літаратурна-мастацкі часапіс. № 48, 2000, Нью Ёрк-Саўт Рывэр, 42 бач.






IN MEMORIAM

### Сьв. Памяці
## РАСЬЦІСЛАЎ ЗАВІСТОВІЧ
### 1 верасьня 1928 — 20 сьнежня 2000



адыйшоў на вечны супачынак 20 сьнежня 2000 г. пакінуўшы ў вялікім смутку жонку Іраіду, сына Аляксандра, дачку Валянтыну, трох унукаў ды шматлікіх родзічаў і прыяцеляў.

Паховіны адбыліся ў Вашынгтоне на Rock Creek Cemetery. Заўпакойная служба прайшла ў Праваслаўнай царкве імя сьв. Хрысьціцеля ў Вашынгтоне.

Усё сьведамае жыцьцё Расьціслава Завістовіча прайшло ў працы для дабра Беларускага Народу. Быў ён актыўным маладым скаўтам ў Гановэры, Нямеччына, а дэвізам скаўтынгу ёсьць — Бог і Бацькаўшчына, і ён верна служыў цэлае сваё жыцьцё і Богу і Бацькаўшчыне.

Прыехаўшы з бацькамі ў Амэрыку пасяліліся ў Саўт Рывэры. Быў сябрам першага царкоўнага камітэту Беларускай Праваслаўнай царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай заснаванай у 1950 годзе. Скончыў Ратгэрскі ўнівэрсытэт у Нью Брансвік, пасьля служба ў амэрыканскай арміі ды ў сувязі з ягонай працай сям'я Завістовічаў пераехала ў Вашынгтон. Тут, акрамя свае прафэсыйнае працы актыўна ўключыўся ў беларускае грамадзкае і палітычнае жыцьцё. З развалам савецкае імпэрыі частымі гасьцямі ў ягонай хаце былі тагачасныя кіраўнікі беларускай дзяржавы. У 1993 годзе выступіў у сталічным Менску з трыбуны Першага Ўсебеларускага Зьезду з прыгожай зьместам і формай прамовай.

Сьв. памяці Расьціслаў Завістовіч быў адданым працаўніком на беларускай царкоўнай, грамадзкай і палітычнай ніве. Быў Ён старшынёю Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі. Дзякуючы ягонай працавітасьці, тактоўнасьці і чулага падыходу да людзей і іх праблемаў гэтая арганізацыя заслужыла давер у беларускай грамадзкасьці і пашану сярод чужынцаў. Пакойны быў як-бы нашым беларускім амбасадарам тут у Вашынгтоне. Прыходзілася яму палагоджваць ня толькі нашыя эміграцыйныя справы зьвязаныя з нашым жыцьцём, але і з жыцьцём на Бацькаўшчыне.

Ягоная раптоўная сьмерць напоўніла беларускія сэрцы глыбокім жалем і смуткам. Па волі Божай Ён адыйшоў ад нас. А ужо абгаварваліся справы ў сувязі з адзначэньнем у наступным годзе ягоных 10-х угодкаў як старшыні Кангрэсавага Камітэту і 50-х угодкаў заснаваньня гэтай арганізацыі.

Хай Яму будзе пухам амэрыканская зямля. Няхай Яму сьняцца сны пра нашую слаўную беларускую і любімую Случчыну.

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**

Заміж кветак на сьвежую магілу Расьціслава Завістовіча складаюць ахвяру на газэту "Беларускі Дайджэст"...
Лёнгіна і Уладзімір Брылеўскія ..................................$50.оо



Спадар Расьціслаў Завістовіч з прэзыдэнтам і віцэ-прэзыдэнтам Злучаных Штатаў Амэрыкі




Спадар Расьціслаў Завістовіч з кіраўнікОм Беларускае Дзяржавы праф. Станіславам Шушкевічам

*****************************************

### А ГЭТА ЦІКАВА...

Па дадзеных апытання, праведзенага Інстытутам сацыялогіі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі сумесна з Дзяржаўнай міграцыйнай службай, каля 300 навукоўцаў і выкладчыкаў ВНУ выехалі ў 1991—1995 гадах у ЗША (38%), Ізраіль (32%), Расею (10%), Нямеччыну (7%), Канаду (3%). У другой палове 90-х лічба гэта вырасла ўдвая. Чаго варты выпадак, калі група беларускіх студэнтаў (цалкам 30 чалавек) не вярнуліся дамоў са стажыроўкі ў ЗША.

Тэндэнцыя росту беларускай дыяспары за кошт найбольш здольных, адукаваных, высокапрафесійных жыхароў краіны неаспрэчна даводзіць, што сённяшняя ўлада Беларусі нядольная зрабіць жыццё сваіх грамадзянаў перспектыўным.

============================

На 1 студзеня 2000 года рымска-каталіцкая царква краіны складалася з 399 парафіяў, у якіх вядуць набажэнства 237 ксяндзоў (у тым ліку 150 — замежных грамадзянаў, з іх 133 з'яўляюцца грамадзянамі Польшчы). У складзе канфесіі дзейнічае сем жаночых манастыроў, тры добраахвотныя дабрачынныя таварыствы «Карытас», адна духоўная семінарыя і два каледжы.

Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква прадстаўленая 13 абшчынамі, найбольш буйная з якіх знаходзіцца ў Мінску і складаецца з прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлігенцыі.

Пратэстанцкая канфесія краіны ўключае 862 абшчыны. Тут самыя вялікія тэмпы росту вернікаў. Напрыклад, за апошнія 8 гадоў колькасць вернікаў-пратэстантаў павялічылася ў 5 разоў, а колькасць абшчынаў — у 3 разы.
БелаПАН

**********************************

Уладзімір Караткевіч некалі слушна зазначыў, што Беларусы заўсёды за кагосьці і ніколі - самі за сябе. Няхай наступны год зменіць гэтую самаедскую традыцыю. Толькі ўсьвядоміўшы свой уласны Інтарэс, праявіўшы нацыянальную Салідарнасць, мы здолеем навесці належны парадак у нашым Доме. Няхай у нашых сем'ях запануе шчасце і дабрабыт! Няхай адыйдзе ў нябыт тое чорнае і агіднае, што гаспадарыць апошнія гады на нашай Бацькаўшчыне, вынішчае нашу Мову, нашу Культуру, наш Дух! Няхай дзеці нашыя будуць вясёлымі, жанчыны - шчаслівымі, а мы ўсе разам - здаровымі і багатымі! Няхай у новым тысячагоддзі Беларускі Род займее ганаровае, належнае яму па праву, месца ў сям'і еўрапейскіх народаў! **З Новым годам, браты-беларусы!**

---

## БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЬНІЦТВА Ў ЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ,
### Беласточчына

22 чэрвеня 1941 г. гітлераўская Германія аб'явіла вайну Савецкаму Саюзу. Ужо 25 чэрвеня 1941 г. у Гайнаўку ўвайшоў нямецкі батальён пяхотнай дывізіі. Так пачалася нямецкая акупацыя, якая ў Гайнаўцы працягвалася звыш трох гадоў, г.зн. да дня вызвалення 17 ліпеня 1944 г. У час нямецкай акупацыі ўсе школьныя будынкі былі заняты нямецкім войскам. У 1941/42 г. у Гайнаўцы не дзейнічала ніводная школа. Навучанне ў арганізаванай форме пачалося ў 1942/43 школьным годзе. Ініцыятарамі арганізацыі беларускай школы ў Гайнаўцы ў 1942 г. былі Надзея Мэльцэр, Тацяна Сафраненка і прадстаўнік Беларускага камітэту Федашчэня. Менавіта гэтая ініцыятыўная група і паставіла пытанне аб арганізацыі беларускай школы ў горадзе перад нямецкім бургамістрам. Нямецкія ўлады хутка далі дазвол. Восенню 1942 г. арганізуецца першая група дзяцей. Кіраўніком першай школы стаў Сцяпан Тэлешэўскі (ураджэнец, пэўна, вёскі Трывежа).

У сувязі з тым, што ў будынку на Ліповай было мала месца, а вучняў прыбывала, школа перамяшчаецца ў прыватны быдынак сям'і Сокул (пазней Мацюкі) на вуліцы Польнай (цяпер Грунвальдская). З дакументаў вынікае, што праз кароткі час дырэктарам назначаецца В. Бурак, які кіруе школай да канца 1942/43 школьнага года. З пачаткам 1943/44 школьнага года школай кіруе Васіль Бахар – арганізатар беларускай гімназіі і пачатковай школы ў Гайнаўцы ў 1944 г. Афіцыйна школа называлася: Беларуская пачатковая школа ў Гайнаўцы. Навучанне праходзіла на беларускай мове, а нямецкая мова выкладалася толькі як прадмет. Пасля заканчэння школьнага году вучні атрымлівалі пасведчанне, першая старонка якога была напісана на нямецкай мове, а другая -- на беларускай. Школа праіснавала да чэрвеня 1944 года